

Валянціна Бабулевіч → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Барды ў Орлі → 12


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl


№ 44 (3312) Год LXIV — Беласток, 3 лістапада 2019 г. — Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

❖Тэкст і фота Уршуля ШУБЗДА

## Двухдзённае свята бардаўскай песні



Ілона Карпюк

**У суботу, 26 кастрычніка, у Орлі пачаўся фестываль „Бардаўская восень” — двухдзённае свята бардаўскіх ды аўтарскіх песень, такіх, у якіх самым галоўным з'яўляецца асабісты, самабытны мастацкі пераказ, выказаны словамі і музыкай. З моманту свайго нараджэння ў 1993 годзе „Бардаўская восень” стала адной з найважнейшых музычных падзей на Падляшшы і ў Беларусі.**

Шматгадовыя ўдзельнікі „Бардаўскай восені” сёлета былі няўцешныя, што не могуць сустрэць сваіх любімых выканаўцаў у Бельску-Падляшскім. Кацярына Бабулевіч і Караліна Ігнацюк, хаця Бельск-Падляшскі пакінулі ўжо даўно дзеля вучобы, штогод адмыслова прыязджалі на фестываль. Сёлета прыехалі ў Беласток у нядзелю 27 кастрычніка, хаця хапіла ім месца толькі на лесвіцы Еўрапейскага цэнтра культуры — у камернай зале Падляшскай оперы і філармоніі проста ўжо не хапала месца для ўсіх жадаючых паслухаць беларускіх бардаў.

— Вельмі цешуся, што так многа прыйшло людзей. Толькі шкада, што не кожны мог увайсці, хаця маглі слухаць з калідора. Мы не спадзяваліся такой колькасці людзей, — адзначыў старшыня Звязу ў карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» Лукаш Леанюк. — Беласток гэта цэнтр ваяводства, а таксама культурны цэнтр. Сабраць трыста людзей не цяжка. Дзесьці ў іншых месцах Падляшша напэўна было б цяжэй. Тут маем многа такіх, якія галодныя культуры і гэта не толькі беларусы. Я ў зале заўважаю шмат людзей, якіх ніколі не бачыў. Сёлета нашы плакаты былі па-беларуску, але і на лацінцы і думаю, што дзякуючы таму маем такую колькасць наведвальнікаў на сёлетнім фестывалі.

Сёлета мерапрыемства адбылося ўжо дваццаць шосты раз. Бардаўская восень прыпамінае, што асабліва ў часы слоўнай банальнасці, якая нас залівае са СМІ, вялікае значэнне мае песня з амбітным, мудрым, інтэлігентным тэкстам. Такая, якая дазваляе „задумацца”. Яшчэ адна важная рэч, што такія песні і такія артысты ўсё яшчэ сустракаюцца ў розных музычных жанрах. Менавіта таму на фестывалі сустракаецца эстэтыка бардаўскай песні з рок- ці фольк-музыкай. Разнавідных стылістычных спасылак не магло не хапаць і на сёлетнім фестывалі «Бардаўская восень», які прайшоў 26-27 кастрычніка.

— Я, калі першы раз сюды з'ездзіў, усім сваім сябрам расказваў, што нават калі вы іграеце ў фармацё электрычнага гурта, вы паспрабуйце зрабіць нейкую акустычную праграму і паспрабаваць заявіцца і з'ездзіць на «Бардаўскую восень», — адзначыў лідар гурту „LEIBONIK”, Сяргей Башлыкевіч. — Гэта безумоўна вельмі круты досвед — ты знаёмішся не толькі з беларускімі музыкамі і ты выступаеш на харошай сцэне перад харошымі людзьмі. Усё сыходзіцца на плюс.

Менавіта канцэртам Сяргея Башлыкевіча ў Орлі пачалася сёлетняя „Бардаўская восень” (*чытайце больш на стар. 12*).



Яўген Барышнікаў





Зміцер Вайцюшкевіч

Другі дзень фестывалю адкрыў выступ гурту «Ilo&Friends». — Гэта не толькі факт сустрэчы з сябрамі, але мяне цікавіць, як іграюць і што іграюць нашы сябры, у асноўным з Беларусі. Бо гэта асноўная нагода, каб паглядзець тое, што зараз у бардаўскай, аўтарскай песні адбываецца і праходзіць у Беларусі, — сказала лідарка гурта Ілона Карпюк. —Тым больш, што ў нас сцэна небагатая. Творчага музычнага беларускага крэатыву на Беласточчыне няма. І таму такія фестывалі нам патрэбныя, каб кантактаваць з беларускай культурай.

Таму многія так разумеюць ідэю гэтага фестывалю — з самага пачатку прапагандаваць з'явы, калектывы і менш вядомыя імёны беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні, хаця, безумоўна, гэта патрабуе пастаяннага пошуку залатой сярэдзіны паміж папулярнасцю і мастацкай альтэрнатывай.

— Мяркуючы па тым, што сёння поўная зала, людзі сядзяць на прыступках, бачна, што ёсць зацікаўленне фестывалем, — сказаў музыка Яўген Барышнікаў. — Вайцюшкевіч заўсёды камбінуе склады музыкаў, а Башлыкевіч выступіў з віяланчэллю, з якой ніколі раней не выступаў. Бардаўская восень гэта вельмі добрая нагода дзеля таго, каб неяк узбагаціць свой выступ, паколькі ведаеш, якія тут выканаўцы і гукі.

Яўген Барышнікаў — шматгадовы ўдзельнік „Бардаўскай восені”. Дудар, выканаўца фольк-музыкі, які, выступаючы, уводзіць лірычны настрой. Сёлета Барышнікава можна было пачуць у час канцэрта ў Падляшскай оперы і філармоніі. Зараз пасля яго на сцэну выйшаў Сяргей Башлыкевіч, які зачароўваў слухачоў гумарыстычнымі тэкстамі.

— Вельмі цёплы выступ, — сказаў пасля канцэрта Башлыкевіч. — Тут некалькі слаёў: першы — гэта тэхнічны. Сапраўды, і ў Орлі, і ў камернай зале Падляшскай оперы канцэрт праходзіць на высокім тэхнічным узроўні. Па-другое, прыемная і цёплая аўдыторыя. Мы адмыслова на сёлетні канцэрт падрыхтавалі больш сур'ёзную і ўдумлівую праграму. Мы адчуваем, што тут аўдыторыя, якая сапраўды слухае, таму стараліся больш нагрузіць думкі.

„Бардаўская восень — 2019” завяршылася выступам Зміцера Вайцюшкевіча, якога песні ведае ўсё Падляшша і не толькі, асабліва слухачы Беларускага Радыё Рацыя.

Нягледзячы на праблемы з фінансавай падтрымкай, арганізатары фестывалю „Бардаўская восень” прыкладаюць усе намаганні для таго, каб ён не знік з карты культурных падзей на Падляшшы і не губляў свайго маштабу.

— Неад'емнай часткай „Бардаўскай восені” з'яўляецца конкурс. Летась і сёлета яго не было па розных прычынах — у мінулым годзе святкавалі 25-годдзе „Бардаўскай восені”, а сёлета не атрымалася па фінансавых прычынах, — адзначыў старшыня Звязу «Шчыты» Лукаш Леанюк. — Усё такі абяцаю, што ў наступным годзе зраблю ўсё, каб конкурс адбыўся, каб «Бардаўская восень» таксама вярнулася на традыцыйныя для бардаў сцэны. Веру ў гэта і я ўпэўнены, што ў наступным годзе «Бардаўская восень» вернецца з цэлай моцай.





# Дэпутаты Каліноўскага

Аўтобус на Свіслач, каб гарадзенцы маглі даехаць да месца, дзе сабраліся традыцыйна ўшанаваць памяць герояў палеглых за Радзіму падчас паўстання Кастуся Каліноўскага, прыехаў на месца збору своечасова. Прысутныя ўздыхнулі з палёгкай. Бо тое, што ён заказаны і дамоўлены, у сённяшніх беларускіх умовах яшчэ не дае гарантый, што прыедзе. Больш чым за два дзясяткі гадоў штогадовай акцыі патрыёты сутыкнуліся з мноствам варыянтаў з боку ўлад, каб сарваць даездку. То аўтобус у іх ламаўся, то колы спускаліся прама па дарозе, то міліцыя спыняла і штосьці правяраджвала... Усяго не пералічыш...

Але заўсёды даязджалі, бо на кожнае дзеянне, ёсць супрацьдзеянне. На кожную прыдумку з таго боку, ёсць напружаная праца інтэлекту з гэтага.

Вось і ў гэтым годзе, каб пазбегнуць таксама традыцыйных як і сама гэта акцыя праследаў і пакаранняў, адзін з кандыдатаў у дэпутаты Максім Губарэвіч паслаў свіслацкім уладам паведамленне, што ён як кандыдат будзе ў Свіслачы праводзіць сустрэчы з выбарцамі. І на магіле Віктара Каліноўскага будзе праводзіць, і ля помніка Кастусю Каліноўскаму, і ля іх родавай сядзібы ў Якушоўцы...

А што, добрая ідэя. А дзе яшчэ ў такіх умовах як сёння, калі працягвае вісець пагроза дзяржаўнаму суверэнітэту, ну дзе яшчэ павінен праводзіць свае сустрэчы сумленны і праўдзівы кандыдат у дэпутаты?! Ясна што тут!

Перакананы, што прыйдзе такі час, калі выбаршчыкі і разглядаць сур'ёзна не будуць таго кандыдата, які ні разу не пабываў на ўшанаванні памяці сваіх нацыянальных герояў на такіх вось святых для кожнага патрыёта месцах. Ды што там патрыёта! Для кожнага сумленнага грамадзяніна сваёй Краіны! Зрэшты, гэта адно і тое. Сумленны Грамадзянін не можа не быць Патрыётам. І напэўна гэта будзе неўзабаве.

Ну а гэты год асаблівы. У Вільні хутка будзе перазахаванне парэшткаў кіраўніка беларускага паўстання Кастуся Каліноўскага. З тае нагоды і з боку беларускіх улад прагучалі заявэнні, што і яны таксама нібыта шануюць гэтага славутага героя. Чаму ў такім разе яны штогод хапаюць удзельнікаў ушанавальнага мерапрыемства ў Свіслачы, чаму праследуюць і караюць іх, гэтага прадстаўнікі ўлад тлумачыць не сталі. А што яны маглі б патлумачыць сваім замежным калегам, нават калі б і хацелі?! Нідзе ў свеце няма такога сораму, такой ганьбы, каб улады краіны каралі сваіх грамадзян за ўшанаванне памяці сваіх жа нацыянальных герояў! Што тут патлумачыш?! Але, як ужо гаварылася, на кожнае дзеянне ёсць супрацьдзеянне.

А магілай Віктара Каліноўскага ўлады ўсё ж зацікавіліся. Хіба не самі зацікавіліся, суседзі напэўна намовілі. Нават следчы камітэт прыязджаў, раскопваў магілу. Цікава, што яны больш хацелі, знайсці там штосьці, ці не знайсці? Зрэшты, кожны знаходзіць тое, што шукае. Такая праўда жыцця. І як сказаў на магіле Віктара Каліноўскага Уладзімір Хільмановіч, які і пісаў пра гэта раней і неаднойчы, магіла гэтая не ўмоўная, а як мінімум прыблізная, а можа і дакладная.

Вось так! І мы збіраемся тут не сантыметры мераць, на якія яна магла адсунуцца ўправа ці ўлева з гадамі. А збіраемся, каб тут набірацца патрыятычнага духу нашых вялікіх і славутых продкаў! Каб набрацца іх волі і велічы! Каб набрацца іх смеласці і адвагі! Тут, у Свіслачы, ля рэальнага помніка, на рэальным месцы пахавання нашых герояў...

А зямелька наша ўся касцямі герояў ды пакутнікаў засыпаная. Уся іх крывёй палітая. Ёсць каго шанаваць, ёсць дзе шанаваць, было бы на тое жаданне і воля. І не трэба нам прывозіць парэшткі нашых герояў з-за мяжы. Прынамсі цяпер. Нам не мёртвых касцей бракуе. Нам жывых касцей не хапае, якія прыходзяць на магілы мёртвых герояў, каб аддаць тым належную даніну павагі.

Але галоўнае, што яны насуперак усяму ёсць! Кандыдатаў Каліноўскага становіцца ўсё больш. І становяцца яны ўсё мацнейшыя ды мудрэйшыя. І лунаюць над магілай Віктара Каліноўскага бела-чырвона-белыя сцягі. Трапечацца ў тых сцягах вольны ветрык Зямлі Беларускай і цешыцца... Цешыцца, што не забываюць нашчадкі сваіх славутых продкаў. Што стараюцца ўпадобніцца да іх...

Гэтым годам надвор'е ў Свіслачы было цудоўнае.

Ды ўсё там было цудоўна.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Ці разбіць люстэрка?

Пішучы гэты тэкст, я час ад часу паглядаю ў акно. Ужо відно, але яшчэ не светла — раніца ў вёсцы... Мой сад у жаласнай расхлістанасці восені б'ецца ў шыбу, як начны матыль, згублены ў святле лямпы. Павеяла песімізмам, страхам ад хуткацечнасці... Геній бесклапотнай маладосці, які непадзельна кіраваў маім часам, незваротна ўпаў, рыючы кірпатым носам у зямлю. Але ён устае, абапіраючыся на кіёк, кашляючы, але ж і поўны надзеі. Ён яшчэ не паддаўся, ён усё яшчэ хоча ляцець — ужо вялы, як апалы лісток. Дык я аптыміст? Я не магу гэтага сказаць пра сябе. Напэўна, з-за восені. Гэта не значыць, што ў мяне ёсць схільнасць да песімізму, да дэпрэсіі восеньскага змяркання, да тугі ад закароткіх гадзін дня і задоўгіх начэй. Я ніколі не быў песімістам, але ніколі не быў аптымістам. Я проста сутыкаўся з кожнай падзеяй, добрай ці дрэннай, выкліканай няўрымслівым цячэннем часу і якая па сутнасці не з'яўляецца ні добрай, ні дрэннай. Яна становіцца толькі рэзультатам нашага індывідуальнага выбару, які мы робім у выніку гэтых падзей. Яны дрэнныя ці добрыя? Ніколі самі падзеі і тыя амаль незаўважныя, як сустрэча добразычлівага чалавека, і такія відовішчныя, як, напрыклад, суседская сварка альбо не дай Бог, хвароба. Дарэчы, мне падаецца, што корань «здарэння» — гэта «дарэнне», і калі так — тады правільным коранем слова быў бы «дар». У гэтым выпадку ў нашых вачах адкрыўся б правільны сэнс падзей, якія ў гэтым новым ракурсе павінны быць зафіксаваны ў пэўнай серый бескарыслівых дараванняў. Як шчодра дае іх нам жыццё! Звычайнае жыццё, распаўсюджанае ў яго шматмільярдным ажыццяўленні, як у пэўнай форме быцця. Жыццё, якое, акрамя гэтага пастаяннага стану, дае і нам самае высокае Ахвяраванне — самасвядомасць. Трэба было б зразумець гэта калінебудзь, калі б толькі адказаць на пытанне, у чым сутнасць нашага самасвядомага існавання. І наколькі свядомага, бо мы не задаволены ўсімі дарамі, якія высноўваюцца з мотка падзей. Бо меланхолія прыгожая па-свойму, а ці смерць, хвароба ці боль таксама прыгожыя? Трэба гэта зразумець, каб упэўнена і канчаткова адказаць на другое пытанне, ці Краса прыгожая, а непрыгожае — брыдкае. І адпаведна: усё астатняе заражана дыхатаміяй проціглегласцей і інтуітыўна здаецца нейкім неабходным забруджваннем, якое, падобна выпадковаму смеццюку, які прыліп да ідэальна чыстага люстэрка, дае нам зразумець, што мы не глядзім на тое, што дадзена наўпрост, а на тое, што толькі адлюстравана ў люстэрку.

Дык што мы сапраўды бачым? На што мы глядзім? Хіба толькі на пажарышчы нашых надзей, на чалавечую жорсткасць і бяздумнасць. За пыху і невуцтва? Ці гэта тое, што мы бачым у скажоным люстэрку, ці гэта наша рэальнасць? Ці мы, нарэшце, усе прадказальна разбуральныя істоты? Такім чынам такія, якімі мы не хочам быць? Бо калі мы не хочам, чаму мы ўсё яшчэ такія? Ці, у рэшце рэшт, мы згаджаемся быць такімі... Бо мы хочам быць прыгожымі перш за ўсё! Мы хочам і, аднак, пагадзіцца з уласнай пачварнасцю. Мы не ў стане аддзяліцца ад сеткі негатыўных мадэляў, якія так пастаянна ўплываюць на нашы паводзіны і жыццё. Гэта тычыцца ўсіх нас. Мы неяк закабаліліся ў звыклай паводніцкай клетцы. Тое, што мы называем свядомым выбарам — свабодай волі, часцей за ўсё з'яўляецца вынікам імпульсу, атрыманага ад гэтага схаванага ўзору. Менавіта таму мы ўсё яшчэ робім тыя ж памылкі. І нават усведамляючы гэта, мы нязменна паўтараем іх. Гэта нейкі страшны дэтэрмінізм. Я кожны дзень шпацырую са сваімі сабакамі па краю лесу, па нарваўскіх лугах. Да нядаўняга часу яны былі акружаны гаспадарскімі платамі, якія аддзялялі ворныя палі і лугі ад дзікіх жывёл. З цягам часу платы зграніелі і ўпалі. Палі зараслі бур'янам. Лугі пайшлі ў дзіч. Апошнім часам я толькі заўважыў, што на месцы агароджаў з'явіліся новыя межы, новыя валы — пастаўлены зусім не для абароны палёў і лугоў ад жывёл, а супраць людзей. «Няма праходу — прыватная зона!», «Няма праходу для неўпаўнаважаных!». У маёй вёсцы такія дошкі нават прабіліся паміж будынкамі. Яны павінны паведаміць мне — але не толькі мне — што мяне тут не хочуць бачыць. Вон, гэта маё, не глядзі сюды! Гэта як быццам хтосьці сумняваецца ў тым, што я магу паважаць чужую маёмасць, а я заўсёды паважаў двор, луг, лясок майго суседа. Я ўвесь час поўны павагі да іншых людзей. Толькі ці яны паважаюць мяне? А, можа, трэба проста разбіць люстэрка?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выбарчыя гонкі (3)

У гэтым тыдні пазаварочваю яшчэ галаву Шаноўным Чытачам завершанымі ў Польшчы парламенцкімі выбарамі. Мінае трэці тыдзень ад іх правядзення, але на далягладзе не відаць нейкага палітычнага супакою ці перамір'я паміж варагуючымі лагерамі. Проста тэрмін прэзідэнцкіх выбараў у наступным годзе не дазваляе палітыкам зняць нагу з выбарчай педалі. Тэрмін паўнамоцтваў цяперашняга прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды мінае ў жніўні 2020 года. Канкрэтная дата чарговых прэзідэнцкіх выбараў яшчэ не прызначана. У адпаведнасці з канстытуцыяй пра яе рашае маршалак Сейма. Прэзідэнцкія выбары могуць быць праведзены не раней чымсьці 100 дзён і не пазней за 75 дзён перад заканчэннем паўнамоцтваў кіруючага прэзідэнта. На практыцы гэта абазначае, што выбары павінны адбыцца ў канцы красавіка або ў маі 2020 года.

Такі хуткі тэрмін чарговых выбараў абазначае, што на практыцы маем зараз у краіне перманентную палітычную кампанію пад загалоўкам «наш прэзідэнт». У новаабраным Сейме ўсе палітычныя групоўкі сваю палітычную актыўнасць і заканадаўчыя прапановы будуць разглядаць перш за ўсё і ў кантэксце шанцаў сваіх кандыдатаў на прэзідэнцкае крэсла ў Польшчы. Такім чынам не толькі палітычныя партыі, але і мы ўсе разам становімся заложнікамі чарговай палітычнай гульні. Такая сітуацыя, здаецца, нічога добрага не прадказвае для штодзённага суцішэння. Наадварот, добра відаць, што два варагуючыя лагеры хочуць правесці бой на смерць і жыццё, паколькі выбарчыя шаблі больш-менш у раўнавазе. Таму цягам бліжэйшай паловы года з хвосцікам будзем мець дачыненне са своеасаблівым паралічам у функцыянаванні дзяржаўных структур.

Вынікі парламенцкіх выбараў і пакуль перавага апазіцыі ў Сенаце дазваляюць апанентам урада Права і справядлівасці паказаць свае палітычныя кіпцюры і ў шырокім спектры праводзіць крытыку дзеянняў урада і прапанаваных сеймавай большасцю законапраектаў. Адным словам — інтрыгі, інтрыгі і неразбярыха.

Гэта ўсё неўзабаве перад намі, паколькі першае пасяджэнне Сейма новага склікання прызначанае на дванаццатага лістапада. Шырэйшы палітычны спектр польскага грамадства, адлюстраваны ў гэтым складзе Сейма, дазваляе прадбачыць, што сеймавая палата будзе месцам яшчэ большай жорсткасці і заядласці выступоўцаў. Дыяпазон ад крайне левых па ўльтра правых шавіністаў абяцае рост палітычнай тэмпературы ў месцы прадстаўніцтва грамадзян Польшчы. Але хай лепей б'юцца яны на словы і пагляды на форум сейма, чымсьці ў жорсткіх узаемных контрманіфестацыях на вуліцах нашых гарадоў. Хай там лепей зыходзіць паветра з надзьмутых ідэалагічных пракетаў.

Ужо зараз відаць, што сярод новаабраннікаў ёсць, на жаль, група асоб, мэтай якой з'яўляецца менавіта распальванне палітычнай варажнечы і здзеку над сваімі палітычнымі апанентамі. Проста — нявольнікі сацыяльных сетак, якія дзень у дзень мусяць рыхтаваць нейкія правакацыі толькі дзеля таго, каб быць пабачаным і пачутым. На колькі гэтыя новыя ваўкі і ваўчыцы зоймуць трывалае і моцнае месца ў сваіх клубах, сёння цяжка прадбачыць. Раней цяжка было сабе ўявіць іх з'яўленне ўвогуле на любых выбарчых спісках, а зараз гэта патрэбныя «воіны» для бруднага змагання. Усе толькі заплюшчваюць вочы і маўчаць, добра ведаючы, што праз нейкі час і так будзе чарговы выступ такога абранніка. Наогул такая блізарукасць палітычных лідараў і іхніх спецаў па выбарчым маркетынгу што і раз большымі крокамі вядзе да паглыбленых унутрыграмадскіх падзелаў у польскай дзяржаве. Парадокс аспрэчвання і запярэчвання польскіх палітыкаў набывае характар перманентнай хлусні. З аднаго боку — поўныя вусны пустаслоўя пра патрэбу нацыянальнай згоды і супраціў для любой формы палітычнай і маральнай агрэсіі, а з другога — самі лідары ледзь не заклікаюць да фізічнага знішчэння сваіх канкурэнтаў.

Зараз у свеце і Еўропе столькі геапалітычна-гаспадарча-мілітарных выклікаў, што такое ўнутранае польскае вынішчэнне проста можа здавацца безадказнасцю з боку нашых палітыкаў за лёс дзяржавы і яе грамадзян.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Я найбольш цаню прадметны конкурс

**— Чаму Вы сталі настаўніцай беларускай мовы?**

— Я ўжо ў дзяцінстве марыла стаць настаўніцай, пэўна таму, што заўсёды любіла дзяцей, ніколі не любіла адзіноты, цешылася, калі вакол мяне былі людзі. А настаўніцай якраз беларускай мовы я стала выпадкова. У мяне ўжо ад пачатковай школы былі два любімыя прадметы — матэматыка і беларуская мова. Паступіць на беларускую філалогію Варшаўскага ўніверсітэта заахвоціў мяне прафесар Аляксандр Баршчэўскі, які правёў з намі сустрэчу ў чацвёртым класе ліцэя.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— На сваёй дарозе ў дарослым жыцці я сустрэла двое цудоўных людзей, якія былі і застаюцца для мяне ўзорам настаўніка і проста добрага шчырага мудрага беларуса. Гэта мой шматгадовы дырэктар Васіль Ляшчыньскі, які прыняў мяне на працу і з якім я працавала 25 гадоў. Ён шмат ад нас вымагаў, але ўмеў таксама даценіць і заахвоціць да працы, стварыў цудоўную сямейную атмасферу ў школе, вельмі добра разумеў беларускія праблемы на Беласточчыне. Другая асоба, гэта згаданы ўжо прафесар Аляксандр Баршчэўскі. Ён ніколі не саромеўся сваёй беларускасці і гэтаму вучыў нас — сваіх студэнтаў. Ён заўсёды і ў кожным месцы размаўляў з намі на беларускай мове.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Вядома, што супрацоўнічала і супрацоўнічаю. За 32 гады сваёй працы шмат было такіх настаўнікаў, з якімі я абменьвалася дапаможнікамі, супольна арганізавалі конкурсы, у 1990-х гадах супольна арганізавалі для вучняў экскурсіі на Беларусь.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Я супрацоўнічаю з многімі арганізацыямі. Вельмі цаню супрацоўніцтва з Праграмнай радай тыднёвіка „Ніва", а асабліва з рэдактарам „Зоркі". Гэта яны ўжо шмат гадоў арганізуюць цудоўныя майстар-класы Сустрэчы „Зоркі", на якіх я са сваімі вучнямі кожны год. Многа конкурсаў для вучняў ладзіць Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Шмат мне дае супрацоўніцтва з Музеем у Студзіводах, Бельскім домам культуры, Асяродкам адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, Бельскім музеем, беларускімі гісторыкамі з Падляшша.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Я амаль кожны год прапаную для сваіх вучняў нейкі праект. У апошнім школьным годзе гэта была тэма „Даты важныя ў нашай гісторыі". Я таксама ўключылася ў міжнародны праект „Эразмус", да якога приступіла ў мінулым годзе наша школа. Мы ў рамках гэтага праекту паказваем вучням з іншых краін таксама нашу беларускую культуру і шматкультурнасць нашага рэгіёна

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— З усіх конкурсаў, у якіх прымаюць удзел вучні, я найбольш цаню прадметны конкурс. Кожны конкурс патрэбны, ён развівае вучня, пашырае яго веды, але якраз прадметныя конкурсы патрабуюць сістэматычнай працы вучняў і даюць ім найбольшую карысць.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**



Фота Уні Шубоды

**Валянціна БАБУЛЕВІЧ** (дзявочае прозвішча Грыгарук) нарадзілася ў вёсцы Кленікі на Гайнаўшчыне. У 1983 годзе закончыла Бельскі беларускі ліцэй і паступіла на беларускую філалогію Варшаўскага ўніверсітэта. Адразу пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1988 годзе пачала працу ў бельскай „тройцы", у якой працуе ўжо 32-і год. У 1991 годзе пачала выкладаць беларускую мову, раней тры гады працавала ў школьнай святліцы. У час працы ў школе паступіла на паслядыпломную адукацыю і закончыла паланістыку і алігафрэнапедагогіку. Праз 22 гады была членам Галоўнага камітэта алімпіяды беларускай мовы пры Варшаўскім універсітэце. З 2011 года з'яўляецца экспертам Цэнтральнай экзаменацыйнай камісіі ў Варшаве. Працуе ў Акруговай экзаменацыйнай камісіі ў Ломжы матуральным экзаменатарам па беларускай мове.

— У сваёй працы я заўсёды старалася і стараюся ўключыць у адукацыйна-выхаваўчы працэс бацькоў, асабліва ў класах, у якіх з'яўляюся выхавацелькай. Больш заангажаваныя пераважна бацькі вучняў малодшых класаў. Вельмі часта супольна з бацькамі робім класныя мерапрыемствы, напрыклад, ёлку, куццю, вогнішчы. На жаль, бываюць і бацькі, якія зусім не ўключаюцца ў жыццё школы. Вялікай дапамогай у маёй працы з'яўляюцца сустрэчы, якія я арганізую сваім вучням, з беларускімі журналістамі, паэтамі, мясцовымі гісторыкамі, дзеячамі культуры. Яны ўзбагачаюць урокі.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Наша школа не мае раёна, да нас прыходзяць дзеці, якіх бацькі хочуць, каб яны вывучалі беларускую мову. Вельмі цешыць, што ў нас вучацца дзеці розных нацыянальнасцей і рэлігій. Вядома, трэба нам, настаўнікам, так працаваць і ствараць такую атмасферу, каб бацькі запісалі да нас сваіх дзяцей.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Трох гадзін беларускай мовы для мяне дастаткова, каб зрэалізаваць праграму. Аднак каб прыгатаваць вучняў да шматлікіх конкурсаў, асабліва прадметных, трэба весці пазаўрочныя заняткі, працаваць з вучнямі нават на святочных і зімовых канікулах, мець індывідуальны падыход да кожнага вучня. У нашу школу кожны год прыходзяць вучні ў старэйшыя класы, якія не вывучалі беларускай мовы і з імі трэба таксама працаваць індывідуальна. Я лічу, што шмат для вучняў даюць заняткі па рэгіянальнай гісторыі і культуры, якія праводзім па адной гадзіне ў пятым і шостым класах.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У мяне кожны год ёсць лаўрэаты прадметных конкурсаў. Мае вучні прымаюць удзел у конкурсах ад пачатку іх існавання. Я ніколі не палічыла, колькі іх назбіралася, напэўна больш за сто, але цешыць мяне поспех кожнага вучня. У школьным годзе 2011/2012 я мела 13 лаўрэатаў, а ў апошнім школьным годзе было іх пяць. Вядома, было яшчэ таксама шмат фіналістаў.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Перш за ўсё нам проста не хапае падручнікаў, а некаторыя з іх выдадзеныя 20 гадоў таму. Каб працаваць з такімі падручнікамі, настаўніку трэба ўмела падбіраць тэксты і карыстацца многімі іншымі крыніцамі. На шчасце маем інтэрнэт, у ім я таксама часта шукаю тэксты да працы.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Я думаю, што ўсе падручнікі нядрэнныя, толькі яны выдадзены так даўно, што цяжка, каб былі дапасаваны да сучаснасці.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Мой любімы беларускі празаік Васіль Быкаў, а з паэтаў найбольш люблю Наталлю Арсенневу.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Якраз пачала чытаць аповесць Алеся Пашкевіча „Рух".

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Я пастаянна чытаю „Ніву" і „Часопіс". На „Ніву" падпісваецца шмат маіх вучняў і мы з ёй часта працуем на ўроках. Малодшыя вучні любяць працаваць з „Зоркай".

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Усе беларускія мерапрыемствы патрэбныя і маюць сваіх гледачоў; я асабіста найбольш люблю і кожны год чакаю „Бардаўскай восені".

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— З некаторымі вучнямі і абітурыентамі я размаўляю па-беларуску і на дыялекце ў кожным месцы, але калі бачу, што вучні гэтага хочуць. Не прымушаю, каб вучні размаўлялі са мной па-беларуску, але мне прыемна калі яны ўмеюць свабодна размаўляць на мове, якая мне родная.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— За 32 гады працы настаўніка былі, вядома, і цяжкія хвіліны, сустракалі і прыкрасці, але я люблю дзяцей, люблю сваю працу, таму стараюся памятаць толькі добрыя рэчы, прыемныя хвіліны, а іх на шчасце ў мяне намнога больш.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Палохае мяне, што вучні штораз менш чытаюць, а стамляе мяне праца толькі з такімі вучнямі, якія не шануюць сяброў і настаўнікаў.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Сярод маіх вучняў шмат вядомых выпускнікоў. Сярод іх дзве асобы сталі дактарамі на беларускай філалогіі ў Варшаве і Беластоку. Мае вучні ёсць і вядомымі беларускімі журналістамі, гісторыкамі, грамадскімі дзеячамі. Сярод іх ёсць і лекары, інжынеры, добрыя педагогі. Не буду нікога называць, бо поспехі ўсіх мяне радуюць, важна, каб былі добрымі, шчырымі людзьмі.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— На працягу сваёй працы я атрымала шмат узнагарод і падзяк. Усе яны для мяне важныя, не пра ўсе сення ўспомню. Два разы я была ўзнагароджана Прэзідэнтам Польшчы: у 2005 годзе атрымала Бронзавы крыж заслугі, а ў 2015 годзе — Сярэбраны крыж заслугі. У мяне таксама ёсць узнагарода Падляшскага куратара і чатыры разы я атрымала ўзнагароду бургамістра горада. Амаль кожны год атрымліваю ўзнагароду дырэктара школы. У мяне шмат падзяк і ганаровых грамат за прыгатаванне вучняў да шматлікіх конкурсаў і за працу ў камісіях прадметных конкурсаў. Вельмі дарагое для мяне вылучэнне, якое я атрымала ў Беластоку на Дзень Волі. Думаю, што такой першай маёй узнагародай за педагагічную працу была Ганаровая грамата за II месца ў конкурсе „Нівы" і Беларускага саюза „Наш клас — наш гонар".

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу да працы даюць мне поспехі вучняў, іх задавальненне і ўдзячнасць, радасць бацькоў.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Я кожны год вельмі рада, калі мае вучні з рук куратара атрымліваюць званне лаўрэата прадметнага конкурсу беларускай мовы. Толькі мы сярод нацыянальных меншасцей маем свой прадметны конкурс і алімпіяду, якія так многа даюць вучням.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У маім класе вісіць, вядома, герб Польшчы, а побач яго вісіць Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг. Я ў сваім класе маю таксама герб сучаснай Беларусі.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— На жаль, паступае паланізацыя беларусаў. Я намагаюся хаця ў маленькай частцы яе спыняць. Я — аптыміст, думаю што частка з нас, нягледзячы на ўсё, не забудзе, хто мы і захавае сваю рэлігію і нацыянальную тоеснасць. Кім будуць нашы дзеці, залежыць толькі ад нас, дарослых.

Апытальнік правяла Ганна **КАНДРАЦЮК**

## Дэмаграфія Супрасльскай гміны

Зараз у Супрасльскай гміне Беластоцкага павета пражывае 15 248 чалавек, у тым ліку 7361 мужчына і 7887 жанчын, у 29 населеных пунктах. Жанчын больш чымсьці мужчын на паўтысячы. Гміна займае плошчу ў 189 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насельніцтва складае 76 чалавек на квадратны кіламетр. У вышэйзгаданай гміне на 100 мужчын прыпадае 106 жанчын. Найбольшыя мясцовасці: горад Супрасль налічвае 4518 асоб (2146 мужчын і 2372 жанчыны, тут іх значная перавага), Грабаўка — 3704 (1776 мужчын і 1928 жанчын), Засцянкі — 2505 (1199 мужчын і 1306 жанчын) і Сабалева — 1552 (774 мужчын і 778 жанчын).

Да вялікіх вёсак належаць Агароднічкі — 820 чалавек (тут 408 мужчын і 412 жанчын), Каракулі — 580 (275 мужчын і 305 жанчын), Саўляны — 448 (223 мужчын і 225 жанчын), Генрыкова — 380 (186 мужчын і 194 жанчыны) і Цяснэ — 360 (тут пароўну 180 мужчын і 180 жанчын). Сярод малых вёсак — 79 жыхароў налічвае Целічанка і 39 Сакалда ды да 30 асоб налічваюць Падлазні — 22 асобы, Падсакалда — 21, Казлы — 19 асоб, Копная Гара, Красны Лес і Суражкова — па 17, Варонічы і Заціша — па 15 і Маёўка — 13.

Ужо перасталі існаваць ранейшыя пасяленні Друкоўшчына, Зялёна, Ізобы, Коннэ, Кшэменнэ, Пячонка-Калёнія, Стары Майдан і Чалнова. Усяго дзве жанчыны пражываюць у Здроях і ўсяго адзін мужчына ў Пад'ялоўцы. **(яц)**

## Драўляныя дамы

У вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ёсць больш за дваццаць драўляных дамоў і некаторыя з іх з ганачкамі. Вока прыцягваюць прыгожыя дамы, між іншым, Лены і Мікалая Харкевічаў, Малгажаты Краўчык, Ярослава Мучко, Янкі і Марыі Янеляў, Станіслава Янеля, Валянціны Самойлік, Аляксандра Клімюка, Уладзіміра Клімюка — колішняга ніўскага карэспандэнта, Веры і Югена Клімюкоў, Бажэны Несцярук, Юрыя і Ніны Ляткоўскіх, Ніны Барэчка, Ніны Кот ды Марыі і Міхала Васькоў.

Гэтыя жыхары дбаюць пра свае дамы, рамантуюць іх, набіваюць шалёўкі, падшчытнікі, надаконнікі, падаконнікі і навугольнікі, малююць. Робяць усё, каб у хатах было ўтульна і цёпла зімой. І свойскі клімат іх мне найлепш адпавядае. У іх цёпла і зімой. Не трэба многа паліць дроў у г.зв. печках-сцяноўках.

Шмат гадоў таму свае хаты разбудавалі для двух сем'яў, між іншым, Валянціна Самойлік і Уладзімір Клімюк. Яны да раней існуючых хат дабудавалі другую частку, спалучаючы абедзве ў адну. Гэтыя хаты маюць цікавую развязку. **(яц)**

## Шлюбныя пары

19 кастрычніка гэтага года дзевяць шлюбных пар з Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё". Паўвека пражылі разам некаторыя мужы і жонкі, між іншым, з Альхоўкі, Плянты, Семяноўкі і Старога Ляўкова.

Шчаслівыя трывалыя шлюбныя пары гэта Тэрэса і Ян Бэрці, Галена і Мікалай Харкевічы, Ірэна і Уладзімір Дразды, Ніна і Тадэвуш Немцуновічы, Валянціна і Мікалай Новікі, Марыя і Уладзімір Паўлючукі, Марыя і Юрый Раманчукі, Лідзія і Сяргей Сачкі ды Люцына і Аляксандр Зданоўскія.

Віншуем юбілараў. **(яц)**

## Папраўка

У 43 нумары „Нівы" ад 27.10.2019 г. у тэксце „Як галасавалі ў Чаромсе" ўзнікла памылка. У рубрыцы „Кандыдатты ў Сейм" пры прозвішчы Сяргела Альдона-Анна — Самаабарона было напісана, што атрымала галасоў 57 + 37 = 9, а павінна быць — 94. За памылку прашу прабачэння ў рэдакцыі і чытачоў. **Уладзімір СІДАРУК**

# Польшча

**7 кастрычніка ў беластоцкай Ваяводскай управе адбылася сустрэча, ладжаная Рэгіянальным асяродкам міжнароднай дэбаты, пад лозунгам „Польшча брамай на Усход — усходняя палітыка". Мерапрыемства мела панэльны характар, выступоўцамі былі: Марцін Пшыдач — віцэ-міністр замежных спраў РП, праф. Яўген Мірановіч з Універсітэта ў Беластоку, Анджэй Пачобут з Саюза палякаў Беларусі, Агнешка Рамашэўска-Гузы — дырэктарка тэлеканала Белсат, д-р Януш Вдзенчак з Лодзінскага ўніверсітэта ды Томаш Гжывачэўскі — журналіст. Сустрэчу мадэравала журналістка Марыя Пшэломец. Дэбату адкрыў падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі.**




■ Злева направа: Томаш Гжывачэўскі, Януш Вдзенчак, Агнешка Рамашэўска-Гузы, Марцін Пшыдач, Анджэй Пачобут, Яўген Мірановіч

Першым з панэлістаў узяў голас міністр **МАРЦІН ПШЫДАЧ**. Сказаў ён, што мэтай польскай замежнай палітыкі з'яўляецца такое фармаванне асяроддзя вакол Польшчы, каб яно спрыяла гаспадарчаму і палітычнаму інтарэсу дзяржавы, рэалізацыі канстытуцыйных задач. Прыгадаў ён апошнія факты, якія садзейнічаюць гэтым задачам. Гэта, м.інш. саміт НАТА ў Варшаве і рашэнне аб размяшчэнні натаўскіх войск у Польшчы. Палітыка Расіі імкнецца да дэстабілізацыі ў нашым рэгіёне і мы павінны прыкласці ўсе высілкі дзеля спынення гэтага. Таксама прымаюцца намаганні дзеля прыбліжэння балканскіх дзяржаў да еўрапейскіх і еўраатлантыцкіх структур; у выніку Чарнагорыя і Паўночная Македонія прыцягнуты да нашых мэт. Бо лічым, што гарантам бяспекі ў Еўропе і ў свеце з'яўляецца НАТА.

**АГНЕШКА РАМАШЭЎСКА-ГУЗЫ**: — Польска-беларускія адносіны трэба разглядаць у ракурсе трох пытанняў. Першае — міждзяржаўныя адносіны; другое — суадносіны з грамадствам і яго актыўнымі элітамі і трэцяе — польска-беларускія адносіны з улікам вялікай польскай меншасці ў Беларусі. Адносна першага пытання: інтарэс Польшчы падказвае нам лічыць Беларусь партнёрам у міжнароднай палітыцы; польскім дзяржаўным інтарэсам з'яўляцца існаванне незалежнай Беларусі — і гэта безагаворачна. Асновай гэтаму з'яўляецца прысутнасць агрэсіўнага суседа, якім з'яўляецца Расійская Федэрацыя, яе загрунтаваны на шматвяковай гісторыі экспансіянізм. Суадносіны з Беларуссю павінны ўлічваць польскую пазіцыю на г.зв. Шырокім Захадзе: пазіцыя Польшчы на Захадзе грунтуецца і на тым, як Польшча праводзіць сваю палітыку на ўсходнім напрамку: без актыўнай усходняй палітыкі Польшча абмяжоўваецца да сярэдняй, не найбагацейшай перыферыйнай дзяржавы. Павінны мы таксама імкнуцца да шырокага гаспадарчага супрацоўніцтва, бо Беларусь гэта наш непасрэдны сусед з нескладанай лагістычнай блізкасцю і павінна быць між намі буйнае гаспадарчае супрацоўніцтва, чаго, аднак, няма. Вось найбольшым нашым гаспадарчым партнёрам з'яўляецца Чэхія з прычыны блізкасці гэтай краіны. Культурныя адносіны выходзяць з таго, што так Беларусь, як Польшча ды Літва і Украіна з'яўляюцца спадчыннікамі Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў — гэта гістарычны факт. А польская культура і духовая спадчына адтуль выводзяцца. І не можа быць нам абыякава, што з тою спадчынай дзеецца. Тая спадчына жалюгодная, у матэрыяльным і духовым сэнсе. І частку гэтай культуры немагчыма ампутаваць. І ўсе гэтыя элементы ўзаемных дачыненняў парушаюцца адным прыкрым фактам — у нашай суседняй краіне дыктатарская ўлада. І асноўнае пытанне: ці маем падтрымліваць беларускага дыктатара, ці маем яму супрацьдзейнічаць. І трэба тут улічваць той факт, што нашым асноўным інтарэсам з'яўляецца існаванне суверэннай Беларусі. І калі Лукашэнка дзейнічае ў напрамку суверэнітэту Беларусі, тады мы павінны падтрымліваць Лукашэнку. У іншых справах не мусім яго падтрымліваць, асабліва калі дзейнічае супраць польскага інтарэсу. Павінны мы трымацца нашага інтарэсу без ілюзій.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**: — Гісторыя не мае вырашальнага ўплыву на міжнародныя адносіны, хаця прысутнічае ў жыцці беларускага і польскага грамадстваў. Адносна апошніх гадоў істотнае пытанне: як разышліся дарогі Польшчы і Беларусі. Агульна мяркуецца, што ў палове 1990-х гадоў, калі настаў Лукашэнка, але я мяркую, што значна раней. Ужо ў 1993 годзе Польшча і Беларусь направіліся ў адваротныя напрамкі. Беларусь у дэкларацыі незалежнасці з 27 ліпеня 1991 года заявіла, што выбірае статус нейтральнай дзяржавы з той здагадкай, што прастора паміж Расіяй і Германіяй павінна быць нейтральная і бязатамная; тут падразумяваліся Літва, Латвія, Украіна і Польшча. І нейкі час гэта сугучала з лініяй польскай палітыкі. У маі 1992 года выконваючы абавязкі дзяржаўнага лідара Беларусі Станіслаў Шушкевіч не падпісаў Ташкенцкага дагавора пра сумесную абаронную палітыку дзяржаў СНД. У ваеннай дактрыне са снежня 1992 года напісана, што Беларусь з'яўляецца нейтральнай дзяржавай і такой застанецца. Але апрача афіцыйных заяў існуе штодзённае жыццё. А яно пасля роспуску СССР спарадзіла пытанне: што з аграмадным ваенным комплексам Беларусі, што з ім зрабіць. Патрачаны рынкі збыту, патрачаны крыніцы сыравіны. 1992 год гэта двухлічбовае падзенне ВНП — проста катастрофа. Інфляцыя звыш тысячы адсоткаў. Тадышнія правячыя Беларуссю, па прычыне таго, што ўвесь Усход быў у падобных абставінах, рашылі скіравацца на Захад. У Германію паехаў Станіслаў Шушкевіч і вярнуўся з пустымі рукамі. У Віскулях сустрэліся старшыні ўрадаў Польшчы і Беларусі і дамовіліся наконт стратэгічных рашэнняў: Польшча ўступіць порт у Гдыні для экспарту беларускіх тавараў на Захад і падтрымае будову скорай чыгуначнай лініі між Гроднам і Гдыняй, а энергетычныя праблемы Беларусі мелі быць вырашаны электрастанцыяй у Зэльве, якая мела атрымліваць вугаль з Люблінскага басейна. Поль-

# брамай на Усход

шча мела спрыяць пашырэнню кантактаў Беларусі з Захадам. Паўтара месяца пазней прыехаў Кебіч у Варшаву падпісаць адносныя дакументы і аказалася, што польскі ўрад не змог задаволіць тых выклікаў, якія былі задэклараваны прэм'ерам Альшэўскім, які скора перастаў быць прэм'ерам. Але ў канцы 1992 года ў Польшчы з'явіліся першыя дэкларацыі пра далучэнне Польшчы да НАТА. Але пакуль гэта наступіла, варта сабе ўсвядоміць, што 80% тавараабмену Беларусі прыпадала на Расію, у тым 100% прывозу энерганосьбітаў. Калі Кебіч вярнуўся з Варшавы, у Мінску прывітала яго статысячная дэманстрацыя пратэстуючых — такога раней не бывала; нават на першамайскія шэсці столькі не збіралася. Каб ратаваць прамысловасць, працаўладкаванне, палітычны парадак Кебіч звяртаецца ў напрамку Расіі і рашае падпісаць дамову пра супрацоўніцтва ў галіне абаронный прамысловасці. У той час цэлы Захад паўтараў, што месца Беларусі пры Расіі; да 1994 года палітыка Захаду вызначала Украіне і Беларусі месца пры боку Расіі. У 1992 годзе наступіў зварот Беларусі ў напрамку Расіі коштам зніжэння цэн энерганосьбітаў. Гэта было немагчыма, пакуль прэм'ерам быў Ягор Гайдар. На яго месца прыйшоў Віктар Чарнамырдзін і той рашыў прызначыць частку расійскага бюджэту на затрыманне Беларусі пры Расіі; наступіла гэта пасля таго, як Польшча задэкларавала, што будзе інтэгравацца з ЕС і НАТА. 27 ліпеня 1993 года ў Дзень Незалежнасці Беларусі ў беларускім пасольстве ў Варшаве не з'явіўся ніводзін польскі міністр. 11 лістапада 1993 года ў польскім пасольстве ў Мінску не з'явіўся ніводзін беларускі міністр. Годам раней урады абодвух бакоў амаль у камплекце гасцявалі ў пасольствах. Былі гэта сімвалічныя падзеі. А гэта было значна раней чым паявіўся Лукашэнка на пасадзе прэзідэнта.

**ЯНУШ ВДЗЕНЧАК**: — Вырашальнымі ў беларуска-польскіх адносінах з'яўляюцца эканамічныя праблемы. Беларуская эканоміка з часу роспуску Савецкага Саюза мінімальна змяніла сваю структуру. Расійская гаспадарка пачала структурныя перамены ў часах Гайдара, украінская таксама, польская прайшла жорсткія рэформы, таксама балтыйскія дзяржавы. Сектар беларускай дзяржаўнай гаспадаркі дэфіцытны, а прыватныя прадпрыемствы генеруюць штораз меншы прыбытак, прыбытковасць падае. Прэзідэнт Лукашэнка вельмі паслядоўны ў гэтым пытанні — ён не развівае прыватных прадпрыемстваў з палітычных прычын, паколькі кіруецца ахвотай захавання ўлады ўсёй цаной. Стварэнне праслойкі ўласнікаў, сярэднята класа, гэта выходны пункт да таксама палітычнай трансфармацыі; гэта і база для палітычнай апазіцыі. Зараз перспектывы таго, што прэзідэнт Лукашэнка выбярэ інтэграцыю з Польшчай ці ЕС — мінімальныя. Праблема ў тым, што калі б Лукашэнка ці яго супрацоўнікі сталі разважаць гэтае пытанне, то наша рука зараз пустая. Ні ЕС, ні Польшча не маюць прапановы плану Маршала для Беларусі. Няма ў гэтай справе зладжанай канцэпцыі, а мы павінны не мець, наша рука не можа быць пустая. Мы павінны ўсведамляць, што мы можам зрабіць у рамках гандлёвага абмену, які зараз каля 4% і надта малы ў параўнанні не толькі з Чэхіяй, Германіяй ці нават Украінай. Лукашэнка хацеў адкрыцца на дыверсіфікацыю энерганосьбітаў, такі дакумент павінен у нас быць, нават калі ён будзе адхілены. ПНРаўскі ўрад, калі адкінуў план Маршала, то была гэта важная падзея, мы страцілі ілюзіі. Мы павінны выйсці з прапановай, толькі ці мы ў змозе. Зараз ВНП Беларусі меншы за такі ж паказчык для Мазавецкага ваяводства. ЕС стварае ў рамках зладжанай палітыкі для кожнага рэгіёна рэгіянальныя аператыўныя праграмы. Такая праграма для Мазавецкага ваяводства гэта невялікі выдатак у маштабе Еўрасаюза, а мог бы рашыць вельмі многія гаспадарчыя праблемы Беларусі. І такая прапанова павінна быць. Калі б беларускія ўлады і разважалі такую магчымасць, то зараз наша рука пустая, а складана праводзіць палітыку, калі няма канкрэтнай прапановы. Расійская гаспадарка вельмі моцна пераацэненая, гэта вялікі калос на гліняных нагах. Расія і Беларусь трымаюцца на інфраструктуры яшчэ з эпохі Брэжнева, напрыклад газаправоды зношваюцца і яны будуць ствараць штораз горшую эканамічную сітуацыю. ЕС, калі выйдзе з добрай прапановай, напэўна паставіць Расію ў складанай сітуацыі.

**ТОМАШ ГЖЫВАЧЭЎСКІ**: — Ёсць розніца паміж усходняй і заходняй часткамі Беларусі і тая мяжа супадае з даваеннай дзяржаўнай граніцай Польшчы. На захадзе захоўваецца гістарычная памяць як было пры Польшчы; гэты ўспамін у прынцыпе станоўчы. На захадзе помніцца, што людзі мелі ўласныя гаспадаркі, што не было калгасаў, што можна было звычайна жыць. А памяць на ўсходзе іншая — там помняць толькі Савецкі Саюз. Аднак людзі апасаюцца інтэграцыі з Расіяй, асабліва ў буйных гарадах, за выключэннем традыцыйна прарасійскага Віцебска, асабліва маладыя, адукаваныя людзі. Расія дрэнна асацыюецца з паўсюднай карупцыяй, дрэннай інфраструктурай, хаосам на правінцыі, дзе не жывецца добра. Расія, асабліва на захадзе Беларусі, не з'яўляецца сінонімам лепшага жыцця.

**АГНЕШКА РАМАШЭЎСКА-ГУЗЫ**: — Апытанні ў Беларусі можна праводзіць і яны даюць даволі цікавую карціну тамашняга грамадства. Яно вельмі лабільнае, значыць даволі лёгка мяняе свае арыенціры і грамадскія сімпатыі. Цягам месяца адносіны да Захаду і да Расіі могуць памяняцца там на дзесяць адсоткаў, у залежнасці ад падзей. У Польшчы адносіны да НАТА ў прынцыпе стабільныя, яны могуць мяняцца, але ў межах аднаго адсотка, а ў Беларусі гэты дыяпазон значна большы. Беларускае грамадства саветызаванае і дзеля таго існуюць такія ўстановы як тэлебачанне Белсат. Яно дзейнічае з дзвюх прычын. Першая, гэта супрацьдзеянне расійскай прапагандзе, ці нават інфармацыйнай агрэсіі. І другая прычына: Беларусь усё знаходзіцца ў працэсе фармавання тоеснасці. Вядома, як такая тоеснасць фармавалася ў нашых спадкаемцаў ВКЛ, Украіны, а асабліва Літвы, на чыста этнічнай базе не была карысная Польшчы — яна генеравала чарговы канфлікт. Таму з нашага пункту гледжання карысна падтрымліваць тых, што намагаюцца фармаваць тоеснасць на шырэйшай аснове — на аснове ВКЛ, на аснове Рэчы Паспалітай — гэта ў жывым інтарэсе Польшчы. Таму мы стараемся падтрымліваць тых, якія гэта так разумеюць, бо гэта мацуе мір у гэтай частцы Еўропы. І паводле нашых ацэнак каля сямісота тысяч асоб у Беларусі сутыкаецца з гэтай ідэяй. Мы доўгі час падтрымлівалі грамадзянскую супольнасць, але фармаванне яе гэта вельмі працяглы працэс і яго вынікі няскорыя.

**ТОМАШ ГЖЫВАЧЭЎСКІ**: — Беларускае грамадства не так саветызаванае як, для прыкладу, Прыднястроўе ці Абхазія. У Беларусі ёсць патэнцыял для працы з грамадствам, гэта не саўкі, не саветызаваны бетон.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**: — Нельга гаварыць, што беларускае грамадства, прынамсі яго эліты, саветызаваныя. Ужо прынамсі адно пакаленне вырасла ў незалежнай Беларусі. І яно не хоча нічога акрамя таго, што ўжо ёсць. Складана спаткаць у студэнцкім асяроддзі прыхільнікаў іншых рашэнняў. Таму маладому пакаленню Беларусь гэта ўсё. Схадзіце на стадыён, на футбольны матч — дамінуюць бел-чырвона-белыя сцягі, і воклічы сведчаць пра выбар балельшчыкаў. Калі мова пра медыі: цягам многіх гадоў вобраз Беларусі ў польскіх медыях быў такі, што невядома было ці тая краіна суверэнная, ці з'яўляецца часткай Расіі. Але і з другога боку Польшча была гэтак сама апісвана. У крызісных момантах Польшчу прадстаўлялі як краіну, якая рэалізуе палітыку іншай дзяржавы. Была гэта такая прапагандысцкая распіханка па абодвух баках граніцы. Аднак у апошніх гадах здаецца, што польска-беларуская прапагандысцкая вайна спынілася.

**АНДЖЭЙ ПАЧОБУТ**: — Сапраўды, Польшча ад нейкага часу перастала быць галоўным пасля ЗША ворагам Беларусі. Аднак замнога інфармацый пра Польшчу няма.

**МАРЦІН ПШЫДАЧ**: — Мы, як польскі ўрад, мусім сабе ставіць тое ленінскае пытанне: што рабіць у гэтых абставінах? Трэба сказаць, што няма простых рашэнняў у беларуска-еўрапейскіх адносінах. Польска-беларускія рэляцыі ў апошніх трыццаці гадах нагадваюць сінусоіду: ад застою да адкрытасці мяжуючай з наіўнасцю. Намагаемся трымаць з беларускімі ўладамі адкрыты дыялог. Нашай дальнабачнай мэтай з'яўляецца вольная, незалежная і багатая Беларусь. А на сённяшні дзень каб была самастойнай, а не часткаю іншай дзяржавы. Сёння Беларусь гэта расійская зона. Трэба заўважыць, што з усіх краін Усходняга партнёрства толькі Беларусь мае буйнейшы гандаль з Расіяй чым з ЕС; усе іншыя дзяржавы пераарыентавалі вектар сваіх гаспадарак у заходнім напрамку.

**АГНЕШКА РАМАШЭЎСКА-ГУЗЫ**: — Я песімістычна стаўлюся да перспектывы гаспадарчых змен у Беларусі, сумніўна, каб сістэма захацела рушыцца ў тым напрамку. І калі не будзе гарантый інвестарам, то можа нічога не атрымацца. Гэта згубнае для Беларусі, але можа так быць.

На сустрэчы разглядаліся таксама пытанні сітуацыі польскай меншасці ў Беларусі, якая даволі складаная, беручы пад увагу ціск улад на дзейнасць Саюза палякаў Беларусі. Ён грунтуецца яшчэ з непасрэдна пасляваеннага часу, калі палякі ў Беларусі мелі намнога больш абмежаваныя магчымасці захоўвання сваёй культуры чым, для прыкладу, у суседняй Літве.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Харашчанская дэмаграфія

Харашчанская гміна Беластоцкага павета налічвае 34 населеныя пункты, у якіх пражывае 15 007 чалавек, у тым ліку 7517 мужчын і 7510 жанчын. Шэсць гадоў таму ў гміне пражывала 13 836 чалавек — 6877 мужчын і 6969 жанчын. Зараз найбольш населеным з'яўляецца горад Харошча — 5705 чалавек (2820 мужчын і 2885 жанчын). За апошнія гады лік жыхароў Харошчы павялічыўся.

Вялікія вёскі гэта Клепачы — у ёй 1885 жыхароў (тут мужчын на 55 больш чымсці жанчын), Златорыя — 871 жыхар (тут больш мужчын на 9), Парослае — 734 (тут мужчын больш на 4), Крупнікі — 712 (тут жанчын больш на 32), Баршчэва — 506 (тут жанчын больш на 10), Лыскі — 420 (тут тут жанчын больш на 22), Жултк — 390 (тут мужчын больш на 8), Панькі — 330 (тут больш мужчын на 2), Олішкі — 303 (тут мужчын больш на 5), Парослае-Калёнія — 285 (тут жанчын больш на 3), Ізбішча — 284 (тут мужчын больш на 16), Рогава — 225 (тут мужчын больш на 9), Сянкевічы — 186 (тут больш жанчын на 22), Дзікае — 173 (тут больш жанчын на 13), Зачарляны — 158 (тут мужчын больш на 2), Гаёўнікі — 152 (тут больш мужчын на 12).

Сярэднія сёлы: Сліўна — 150 жыхароў (тут больш мужчын на 8), Канавалы — 143 (тут больш жанчын на 7), Дзікае-Калёнія — 105 (тут жанчын больш на 3), Рагувэк — 102 (тут мужчын больш на 4) і Яронікі — 102 (тут мужчын больш на 2).

Да меншых вёсак належаць Агароднікі — 98 (тут жанчын і мужчын пароўну), Жултк-Калёнія — 65 (тут мужчын больш на 1), Рогава-Маёнтак — 57 (тут мужчын больш на 1) і Турчын — 21 (тут мужчын больш на 3). Мужчыны пераважаюць амаль ва ўсіх харашчанскіх вёсках ды ў агульным ліку жыхароў усяе гміны. Гэта вартае зацікаўлення.

Ніхто ўжо не пражывае ў Гаёўніках-Калёніі, Зачарлянах-Калёніі і ў Златорыі-Цагельні. У пасяленні Калёнія-Чапліна жыве адзінокі мужчына. **(яц)**

## Восень ідзе цераз парк

Стаяў прыгожы восеньскі сонечны дзень 19 кастрычніка гэтага года. Пайшоў я на прагулку ў гарадскі міні-парк пры вуліцы Белавежскай у Гайнаўцы. Пішу міні-парк, бо яго заціснулі з двух бакоў, між іншым, жылымі шматсямейнымі блокамі, рознымі ўстановамі, амбулаторыяй, поштай, вышэйшай навучальнай установай, банкам, гасцініцай, сядзібай паліцыі. І з ранейшага даволі вялікага парку атрымаўся ўсяго міні-парк. Яшчэ б каб у парку не пабудавалі вялікага амфітэатра і асфальтавых дарожак да яго. А так зглуміл толькі некалі прыгожы бярозавы парк. Цяпер беластвольных дрэў тут мала.

Я прысеў на прыгожай чыстай лаўчацы на ўскрайку асфальтавай сцяжынкі пасярод ліставых рэдкіх дрэў. Тут так прыемна пахадзіць і пасядзець у пагодлівы дзянёк. Паветра было насычанае пахам дрэў і свежа апаўшага лісця. З клёнаў, бяроз і дубоў зляталі на яшчэ зялёную траву жоўтыя і карычневыя лісточкі. Рэдкія тут дрэвы з каштанамі ўжо без пары „абмалацілі". У парк прыйшлі маладыя вясёлыя ды гаваркія жанчыны з дзіцячымі каляскамі, на нейкі час зайшлі сюды, а як жа, і парачкі. Хлапчукі-юнакі толькі прамчалі па дарожцы на сваіх роварах-гуралях і пагналіся далей.

У густыя купінкі дрэў прыляцелі вёрткія лясныя птушкі (тут побач Белавежская пушча), а каля мяне замітусілася чародка галубоў (яны то ўжо ад гарадскіх галубятнікаў). У парку было ціха. Сядзеў я, сядзеў і раптам бачу за кусцікам горбачка сухога лісця зварухнулася, а ветру няма ж. Гэта быў сцішаны раней вожык. Відаць, адпачыў так як і я, ды падаўся ў дарогу ў сабе вядомым накірунку. Мне таксама прыйшла пара ісці дадому. Бывай, вожык! **(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Сакрэты і тайны ў пятым «ц» класе!

У новым класе — усё магчыма або немагчымым.

— Я так перажываў, што не мог спаць, — прызнаецца Пятро, — прачнуўся ў чатыры раніцы і ледзь дачакаўся моманту, каб ехаць у школу. На месцы быў у 7 гадзін 15 хвілін. І ўсё дзеля таго, каб бліжэй пазнаёміцца з новымі сябрамі...

З верасня Пятро стаў вучыцца ў пятым «ц» класе. Перайшоў, каб падцягнуцца ў сваіх зацікаўленнях. У амбітным класе дзеці імкнуцца ўгару, як дрэвы ў лесе. Чым больш зачэрпнуць святла, тым больш самі зоймуць месца, набяруць сілы і моцы з неба і зямлі. Дзеці з пятага класа гэта ўжо разумеюць. Яны ведаюць, што трэба пнуцца ўгару, вучыцца, каб не згубіць сваіх мараў і здольнасцей.

— Пра нас кажуць, што мы — шчыры клас, — адзначае Кася, — што ўсе нясуць сабе дапамогу.

І ўсе разам гуляюць на перапынках.

Якія гульні ў пятым «ц» класе?

— На перапынках мы гуляем у хованкі, — кажуць хлапчукі, — у школе ёсць дзе схавацца. Ёсць закавулкі, што нават школьны сторож не здагадаецца! Але пра гэта не трэба гаварыць, уся забава якраз у сакрэтах і тайнах. І ў спорце. Вось за адзін перапынак трэба аблётаць усе паверхі, абнюхаць усе куткі, праверыць усе скрыткі. Іх школа — бельская «тройка», прасторная, яна можа змясціць да тысячы вучняў.

— У нас яшчэ адна любімая гульня, — заяўляюць на жартоўнай ноце хлапчукі, — але пра гэта лепш не гаварыць. Дзяўчаткі пакрыўдзяцца!


Клас пяты «ц» з настаўніцай Валянцінай Бабулевіч


Пятро (справа) і Павел

— Цікава?

— Нашы сяброўкі вельмі перажываюць за нас, — цягнуць яны, — яны пра ўсе нашы правіны і фокусы даносяць настаўнікам. Пасля нас чакаюць пакаранні. І будзь ты шчыры ў такім класе!

Так ці інакш, усе нашы сябры прызналіся ў шчырай любові да беларускай мовы. Падабаецца ім, калі настаўніца Валянціна Бабулевіч кранае сур'ёзныя тэмы на ўроках, калі прапануе самастойна ім чытаць «Зорку». Гэта крок да духовага росту і самастойнасці. Дзеці прымуць удзел у дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова». А тыя, найбольш амбітныя, рыхтуюцца ўжо да прадметнага конкурсу. Стаць лаўрэатам — сур'ёзны поспех у жыцці!

— Я хоць не спаў і ўсё перажываў, — кажа Пятро, — то хутка знайшоў у класе сяброў. Мы ўжо разам гуляем у хованкі.

Пятро — невыпадковы наш герой. Ён адважна гаварыў пабеларуску і шмат ведаў пра «Ніву». Дзякуючы гэтаму ён яшчэ больш спадабаўся новаму класу.

**Зорка**
*фота Ганны Кандрацюк*

*Уладзімір Караткевіч*

## Лісце

Восень прайшла пералескамі,
Па няголеным ржышчы ніў,
Чырвонымі арабескамі
Лісце лес ураніў.
Глянь на зямлю залатую,
Пяшчотную, сумную, чыстую,
Нехта па ёй вандруе,
У паветра ўзнімаючы лісце.
Струменьчыкам тонкім лісце.
Медзь на азёрах сплывае,
Сум у небе імглістым...
Як песня, з галін злятае
Лісце, лісце,
Залацістае лісце,
Сто лісцяў,
Дзесяць лісцяў,
Ліст.

# УВАГА КОНКУРС! № 44-19

**Каля носа ўецца, а ў рукі ўзяць не даецца.**
Д..

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 17 лістапада 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 40:** Пад мокрым кустом сядзіць заяц, калі дождж ідзе.

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі** Вераніка Паніквіцкая, Мартына Барзвіч, Дам'ян Горчак з Бабік, Матэвуш Зыскоўскі з ПШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!

# Міфы
## старажытных беларусаў

Ведаем міфы старажытнай Элады, Егіпта ці Рыма. На іх збудаваны падмуркі еўрапейскай цывілізацыі. Гэта зразумела і патрэбна. А ці думаем пра беларускія міфы?

Звычайна не ўсведамляем іх існавання.

Ды нават калі пра іх не ведаем, яны жывуць у нас і побач нас. Яны праяўляюцца ў нашых паводзінах, пачуццях, боязях і радасцях. Яны жывуць у мове і нашым спосабе ўспрымання свету. Гэта сапраўдны ключ да спазнання самога сябе. Таму з гэтага нумара прапануем вам вандроўку па беларускіх міфах паводле кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей». У нашай публікацыі мы прывядзем (у меру магчымасцей) прыклады з роднага Падляшша. (гак)

### Дым

Нашы продкі ўспрымалі дым, які ішоў з каміна над хатай, з чалавечай душой, бо і дым і душа, па іх уяўленнях, уздымаліся ў паветра. Па дыме, які, як гаварылася ў нашай загадцы, каля носа ўецца, а ў рукі ўзяць не даецца, варажылі і прадказвалі надвор'е, будучыню, скарыстоўвалі ў народнай медыцыне. Калі нехта цяжка хварэў, бралі пер'е з ягонай падушкі, падпальвалі і глядзелі, як разыходзіўся дым: калі па кутках хаты — гэта было знакам на выздараўленне. Калі дым ішоў за парог — азначала смерць. Падобны прагноз рабілі з дапамогай грамнічнай свечкі.

На Падляшшы па сённяшні дзень існуе звычка падкурвання хворых людзей і жывёлы зёлкамі асвечанымі на Тройцу і Яна, грамнічнай свечкай (ад пераляку), ільняным пакуллем ці воўнай (ад хвароб наклiканых чарамі). Таксама з дапамогай дыму з асвечаных зёлак праганялі начніц ад калыскі немаўляці. Па ўяўленнях продкаў, дым «размаўляў» з душой хворага, а яго рэзкі пах адганяў хваробу і ўсякую нечысць, якая прыносіла боль і няшчасці. Усе хваробы і нечысці з дапамогай дыму выдуваў вецер па-за межы жыцця, у свет памерлых.

Нашы продкі верылі, што калі ў сне пабачыш дым, які ўздымаецца ўгару — значыць, будзе шанцаваць. А калі ён ідзе ўніз — будзе няўдача. Нават наш класік Якуб Колас, калі пісаў пра беларускае адраджэнне, пакарыстаўся фразай родам з беларускай міфалогіі: Пойдзе з дымам усё ліхое, усё мучыць нас і гне...



«Гарадзенскія Каруначкі»

*Генадзь Аўласенка*

## Конь і воўк

Неяк летам сярод дня
Шэры Воўк сустрэў Каня.
Каля лесу на траве,
Па зялёнай мураве
Конь хадзіў, траву шчыпаў,
Небяспекі не чакаў.
Ну а Воўк галодным быў,
Бо нікога не злавіў.
Зубы ў шэрага ляскочуць,
У Каня ўчапіцца хочуць,
Але Воўк пакуль трывае,
Толькі прагна пазірае.
Перад тым як учапіцца –
Трэба ж неяк прычапіцца,
Трэба ж нейкая падстава,
Каб прайшла законна справа.
Ды нядоўга думаў Воўк,
На Каня зубамі шчоўк!
– Гэта мой, – крычыць, – мурог!
Для сябе яго бярог!
Ты яго мне загубіў,
Да зямлі траву прыбіў,
Калі ты на ёй валяўся...
Конь няспела заспрачаўся:
– Не валяўся я ў траве!
Воўк не слухае, раве:
– За такую, за абразу
Зараз я табе адразу
Свой прысуд выносіць мушу
І яго я не парушу:
Або ў лес цябе завесці,
Або тут на месцы з'есці?
Конь падумаў, уздыхнуў,
Сумна грывай матлянуў.
– Добра! – кажа. – Што ж рабіць!
Значыць так і мае быць!
Пэўна лёс у нас такі –
Каб з'ядалі нас ваўкі!
Так што выканай прысуд:
З'еш мяне на месцы, тут!
Толькі просьба ёсць адна,
Невялікая яна...
Што за просьба? – кажа Воўк,
І ізноў зубамі шчоўк: –
Калі хочаш падмануць,
Час дарэмна працягнуць...
– Просьба дробная ў мяне,
Часу многа не міне.
На нагах маіх падковы,
І пачуў я выпадкова,
Што адна з іх надпіс мае...
Ды ніяк не прачытаю!
І чаго я не рабіў:
Я і шыю ўбок круціў,
Я і ногі задзіраў –
Але ж усё не прачытаў!
Ты ўжо мне не адмаўляй,
Гэты надпіс прачытай,
А ўжо потым – еш мяне!
Ну, дык згода альбо не? –
Конь спытаў, заплакаў горка.
Кажа воўк:
– Аб чым гаворка!
Дзве хвіліны пачакаю,
Покуль надпіс прачытаю!
Абышоў Каня, спыніўся,
Да падковы нахіліўся.
Ну а Конь як узбрыкне,
Як нагамі пекане!
Прама ў лоб Ваўку ўляпіў,
Той і вочы закаціў,
Пахіснуўся, пахіліўся
І без памяці зваліўся.
А калі ўжо ачуняў –
Не знайшоў нідзе Каня.
Той не стаў чакаць, вядома,
А пабег сабе дадому...
Воўк устаў, пакратаў лоб:
– Ах які ж я асталоп!
І чаму, хацеў бы знаць,
Надпіс я палез чытаць,
Вось чаго не разумею!
Я ж чытаць зусім не ўмею!

# Польска-беларуская крыжаванка № 44-19




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 40-2019:**

Мера, ваяк, ты, авечка, павага, улада, кафэ, Яга, ват, шаль, Ада. Мэта, кош, пуф, алень, сава, Вадзім, Вега, Дача, Ява, як, гад, кантата.

Узнагароды, сшыткі з беларускім арнаментам, выйгралі **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага, **Каміля Цілюлька, Агата Пуцілоўская** з Бабік, **Матвей Зыскоўскі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Кацярына Сурэль, Давід Маслоўскі** з Арэшкава, **Мая Ляўчук** з Беластока. Віншуем!

Частка 3

# Генетычны алфавіт



— Тады СССР дакладна разваліцца, як гнілы калгасны хлеў. От, гэтыя калгасы! Яны безнадзейна і паслядоўна зарастаюць маляўнічымі вясковымі пейзажамі. Ці ж можна ў такой сітуацыі наладжваць адносіны з амерыканцамі? — задуменна прамыкаў сабе пад нос савецкі спецслужбовец. — Ды што тут гаварыць! Вайна — і тая прынесла б менш шкоды, чым тая палітыка.

А тут яшчэ кепскае надвор'е зусім не давала яму засяродзіцца, блытала думкі, і таму муляла ў яго развагах, як каменьчык у боце. Ці як мазоль з левага мезенца нагі, які чамусьці апынуўся на правай ягадзіцы.

— Ну няўжо ў такой вялікай краіне, як наша, нідзе няма добрага надвор'я? — нечакана для сябе стукнуў спецслужбовец кулаком па стале, ад чаго папяльнічка, што таксама, як дыск тэлефона, была з выявай герба Савецкага Саюза, перавярнулася дагары нагамі. Калі можна так сказаць пра папяльнічку „дагары нагамі", вядома ж. Ці лепш сказаць — уніз гербам.

Дзверы ў кабінет імгненна адчыніліся, і туды шалёнай куляй ускочыў малады лейтэнант у форме, з васковым тварам без яўных прыкмет хоць якіх-небудзь чалавечых эмоцый.

— Дазвольце далажыць, — бадзёрым, але роўным голасам належнай гучнасці адрапартаваў ён. — Самае лепшае надвор'е зараз у Мінску, сталіцы Савецкай Беларусі. І ў яго ваколіцах у радыусе ста кіламетраў па прамой таксама такое ж. Праз дзве гадзіны трыццаць адну хвіліну сем з паловай секунд там наступіць цудоўная раніца. Тэмпература паветра будзе дасягаць 14 цэлых і 5 дзясятых градуса па Цэльсію. На траве раса сярэдняй зярністасці. Вецер лёгкі, заходні...

— Эх, гэты Мінск, — перабіў яго начальнік і сарваўся на крык. — Гэта праз яго я не магу заснуць, як юнак пры дзеўцы. А ты думаеш, што я не ведаю, якое там надвор'е?! Гэта гідраметцэнтр і ўсе астатнія сіноптыкі свету могуць не ведаць пра надвор'е, зрэшты і не ведаюць. Іх амерыканцы заблыталі. А наш разведчык павінен ведаць усё і дакладна, і заранёў! І павінен умець зрабіць такое надвор'е, якое яму трэба, калі яно да гэтага не адпавядала пастаўленым задачам! Эх, моладзь пайшла! У былыя часы цябе за гэта рэвалюцыйнай тройкай расстралялі б з рэвальвера „Наган" з першага ж стрэлу ў патыліцу, а пасля ўсадзілі б і астатнія кулі! А зараз палітыка пайшла нялюдская нейкая, мяккацелая, слюнцяйская. Новы генсек яшчэ больш сентыментальны за папярэдніка. Той давёў краіну сваёй палітычнай адлігай да палітычнай прастуды і ледзьве не да палітычных смаркачоў. А смаркачы заўжды пры адлізе, як партбілет пры камуністу. Мы ж пры такой палітыцы маглі дайсці ажно да пачаткаў ранняй дэмакратыі! Аж страшна падумаць! І гэта замест таго, каб з Кубы ўжо даўно ядзерныя ракеты запусціць куды трэба. Эх, была б пацеха! А?! Дык не, ядзерны баланс падтрымліваем з Амерыкай! Як дурань дурня. А ведаеш, што будзе, калі дурні падтрымліваюць адзін другога?

— Не магу знаць, — адказаў лейтэнант усё тым жа голасам без эмоцый, але бадзёрым і належнай гучнасці.

— Так і будуць стаяць абняўшыся! Гэта нам трэба? Мы нішчыць павінны непрыяцеля, а не абдымацца з ім. А калі і абняцца, то толькі дзеля таго, каб заснула пільнасць ворага. Той генсек, Мікіта Сяргеевіч, дзівачыў, а гэты, Леанід Ільіч, яшчэ больш з глузду з'ехаў. Нават дысідэнтаў будзе за мяжу выкідваць, замест каб іх тут душыць публічна... А яшчэ Ільіч, як Ленін. Наша праблема ў тым, што людзі, якія павінны прымаць лекі, прымаюць рашэнні. А тут яшчэ ў Мінску праблемы намалёўваюцца. Ці, дакладней, у яго ваколіцах. А яшчэ і вецер заходні ў тым Мінску... Раса то хай сабе, сярэдняй зярністасці... Не страшна... А вось вецер... Эх, Мінск, Мінск!!!

Раптам кіраўнік савецкай спецслужбы нервова схапіўся адной рукой за сэрца, а другой нямогла памахаў лейтэнанту, як чорны крумкач перабітым крылом. Лейтэнант ведаў, што рабіць. Падляцеў куляй да сейфа, у імгненне вока дастаў адтуль бутэльку армянскага каньяку „Двін", спрактыкавана наліў чарку і паднёс начальніку проста да падбародка. Начальнік выпіў палову, прыняў ад лейтэнанта скрылік лімона, уздыхнуў і прысеў на крэсла.

— Ну вось, зноў сэрца, — прастагнаў ён. — Які непатрэбны для чалавека орган! Адны праблемы ад яго. Мы, камуністы, правільна робім, што не верым у душу. Трэба пайсці далей і перастаць верыць у сэрца. Яно нам абсалютна непатрэбнае, тое сэрца. Асабліва супрацоўнікам спецслужбаў.

Так сказаў, як хвост касой адрэзаў. За свае за сорак год, большасць з якіх быў спецслужбоўцам, ён навучыўся рэзкай, як мах шабляй па галаве, размове з падначаленымі і не толькі з імі. Трымаць адлегласць і марку ва ўсім — вось яго дэвіз. І голас, і вопратка (у першым варыянце той вопраткі — цёмны гарнітур, светлая кашуля, класічны гальштук, начышчаныя туфлі і нават адпаведныя чорныя шкарпэткі) усё гэта важныя звёны аднаго ланцужка. Ці другі варыянт, як сёння: адпрасаваная і вычышчаная, як сумленне манаха, форма з генеральскімі пагонамі, якая ўлітая ў фігуру так, нібыта з ёй нарадзіўся і ніколі не здымаў. Рос з ёй разам, сталеў, мыўся, змываў плямы адначасна з яе і сумлення... А яшчэ стройная постаць, мэтны твар камуніста, бязлітасны погляд... Усё павінна падкрэсліваць характар змагара за сусветную камуністычную рэвалюцыю. Таму і сказаў так рэзка. А сам падумаў пра іншае:

„І што б я рабіў, калі б не гэты каньяк? Зусім сэрца адмовілася б працаваць. Толькі ён і дапамагае. Знакаміты армянскі каньяк „Двін". Той самы, што мы адпраўлялі Уінстану Чэрчылю аж да самай яго смерці. Пяцьдзясят градусаў. Яшчэ з тых каньячных спіртоў, над якімі чараваў сам Маркар Сардакян. Не дзіва, што Уінстан Чэрчыль працягнуў на тым каньяку больш за дзевяноста гадоў".

— Вам бы здароўе паправіць трэба, — заўважыў лейтэнант. — Не думаеце вы пра сябе. Усё пра краіну турбуецеся.

— А ты як думаў? І не я адзін турбуюся! Вось зараз глыбокая ноч, навальніца, жах жахлівы, а да мяне прыйдзе сам чалец Палітбюро СССР. Таксама не спіць, як галодны воўк у пустым лесе. Ну, ён-то днём высыпаецца, на пасяджэннях Палітбюро. Яны там усе спяць, як пацыенты інстытута Скліфасоўскага ў коме, каб іх халера пабрала. Пры Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіне то і не прачнуліся б за такое. Усе старыя маразматыкі яшчэ хрушчоўскага і дахрушчоўскага набору. Што з іх узяць, акрамя аналізаў? Ды і аналізы не ў кожнага ўжо выціснуць можна. А маладзейшыя ў тым Палітбюро баяцца голас падаць. Як рыбы на вудзе!

Начальнік ажно закашляўся як старая бабуся ў сухотным дыспансеры. Але толькі на хвіліну. Пасля хутка выправіўся і зноў прыняў заклапочана-працоўны выгляд.

Ну і нагаварыў ён. Гадоў на тысячу без права перапіскі на Салаўках. Але малады лейтэнант замаладый, каб зразумець, пра што ён плёў. І не гэта галоўнае. Лейтэнант то добра ведае, ад каго залежыць, каб ён хутчэй стаў маёрам. Ды і хто яго зрабіў лейтэнантам такой службы?! Хоць гавораць, што такімі гадамі і свалачамі не становяцца, імі можна толькі нарадзіцца, але ўсё ж... Начальнік перайшоў да справы:

— Вось мы з ім пра той Мінск выраашаць і будзем. І пра яго ваколіцы з расой сярэдняй зярністасці таксама. Гэта амерыканцам добра. У іх-то дзень. Яны там у працоўны час інтрыгі плятуць. А што ім? Ты думаеш будуць, як мы, працаваць ноччу? Не, вядома ж. У іх і ахова працы, і прафсаюзы, і іншыя сістэмы абароны іх чалавечых і працоўных правоў... А нам па начах прыходзіцца... Як бандытам. І ніякай падле няма да гэтага справы! Праклятая работа! Праклятая работа!! Праклятая работа!!!

Невядома, колькі яшчэ нудзеў бы звышсакрэтны начальнік, бо злавіў кураж, параўнальны толькі з натхненнем паэтаў, але ў кабінет ускочыў яшчэ адзін малады лейтэнант у форме, і з такім жа васковым тварам без нават бляклых прыкмет хоць якіх эмоцый, як і ў першага.

— Чалец Палітбюро СССР прыйшоў на сустрэчу, — адрапартаваў ён бадзёрым, але роўным голасам належнай гучнасці.

Яго манеры, голас, гучнасць і вымаўленне былі настолькі падобныя да аналагічных якасцей і паводзін першага лейтэнанта, што начальнік заблытаўся, хто з іх двух гаворыць. Стаў у разгубленасці круціць галавой, як гарызантальным маятнікам, то да аднаго, то да другога, не арыентуючыся, каму аддаць чарговы загад. Так і не аддаў.

**3. Крамлёўская змова**

Над Крамлём зноў бліснула маланка, грымнуў пярун, зноў на імгненне патухлі чырвона-рубінавыя крамлёўскія зоркі ды чарговы раз адкінулі жудасныя цені падобныя на сектанцкія знакі. А ў кабінет, шоргаючы імпартнымі фінскімі туфлямі па дасканала націёртым паркеце павольна зайшоў сам чалец Палітбюро Савецкага Саюза, або нейкі там чалец Палітбюро Савецкага Саюза, гэта як каму больш падабаецца. Проста Чалец Палітбюро Савецкага Саюза будзе больш правільна. (Сапраўднае імя і прозвішча засакрэчаны спецслужбамі СССР).

— Вітаю, генерал, — памахаў ён рукой і павольна ўсеўся на крэсла. Задыхаўся. Перавёўшы дух, працягнуў: — Як ты мяне вучыў, у тваім кабінецы я па імені нікога не называю. А то гэтыя праклятыя амерыканцы могуць нас рассакрэціць.

Лейтэнанты на лёгкі ківок галавы начальніка шалёнымі кулямі выскачылі з кабінета і так хутка зачынілі за сабой дзверы, што не пакінулі сумневу ў тым, што доўга і ўпарта адпрацоўвалі гэты рух. Ды так бясшумна зачынілі, што дзверы нават не рыпнулі. Поўная цішыня. Як на новым шлюбным ложку, на якім няма нявесты.

— Лепш і па званні не называць, — адгукнуўся генерал. (Вось так з неабдуманага праколу чальца Палітбюро СССР стала ясным званне звышсакрэтнага спецслужбоўца.) — Але гэта было раней, — задуменна працягваў гаворку ён. — Зараз усё змянілася да горшага, каб яго трасца! Усё да горшага! Мне здаецца, што ўсё коціцца трам-тара-рам! Пасля пра тое распавяду. А цяпер давай па парадку, як на партыйным сходзе. Я вітаю цябе, стары прыяцель.

Тут генерал сам залез у сейф, прыкрыў яго, як ад злодзея, плячамі, каб госць не бачыў, што ён там робіць, напоўніў сваю чарку з ужо раскаркаванай бутэлькі армянскім каньяком „Двін", а ў другую чарку наліў з другой пачатай бутэлькі, дзе таксама бестурботна спачываў каньяк, толькі з іншай назвай. Гэта быў толькі што запушчаны ў вытворчасць новы каньяк „Крым". Абедзве напоўненыя да краёў чаркі і бутэлька „Крыма" размясціліся на стале, побач з талерачкай, на якой улёгся парэзаны лімон, паламаная шакаладка і кускавы цукар.

— Я пазней. Зараз бы чайку, — стомлена адмахнуўся госць.

— Чаю, два! — скамандаваў гаспадар.

Дзверы імгненна адчыніліся і нейкі з лейтэнантаў тут жа паставіў на стол дзве шклянкі гарачай гарбаты ў падшклянніках класічнай формы на разносе фіялетавага колеру. Было бачна і без лупы, што падшклянніkі зроблены са шляхетнага металу. У астатнім жа яны нічым не адрозніваліся ад тых, з якіх сёрбае гарбату савецкі рабочы клас і працоўнае сялянства ў перапоўненых цягніках на бяскрайніх абшарах сваёй сацыялістычнай радзімы.

Затым лейтэнант гэтак жа хутка знік за дзвярамі як здань. Нібыта і не было яго. Пара са шклянак уздымалася роўным слупком, што сведчыла пра адсутнасць скразнякоў, але не тайнага падслухвання. Таму чалец Палітбюро яшчэ раз сябе настроіў, што лішняга ў гэтым кабінеце лепш не гаварыць. І не толькі ў кабінеце, але ўвогуле ў гэтай любай яго сэрцу краіне, справе праслаўлення якой ён прысвяціў усё сваё жыццё. Ён, калі яшчэ быў маладым камуністам, засвоіў вялікую мудрасць, што рот разяўляць увогуле не рэкамендуецца анідзе і аніколі. Як выключэнне можна толькі ў дантыста на прыёме.

Водар гарбаты сведчыў пра замежную крыніцу яе вытворчасці. Вада, хутчэй за ўсё, была айчыннай, таму кабінет не напаўняла аніякім пахам. Відаць, добра ачышчаная.

— У такую непагадзь і заяць цешчу па гарэлку не выправіць. Думаю, ты мяне без дай прычыны не будзеш падымаць з ложка ў такое паскуднае надвор'е, — выказаў упэўненасць высокапастаўлены госць. — Неба як звар'яцела. Хіба дождж будзе ліць сорак дзён і сорак начэй, — паспрабаваў ён пажартаваць. — А што, кажуць, так ужо было аднойчы. Мне ў дзяцінстве мама ў нейкай кніжцы пра гэта чытала. Не памятаю толькі ў якой. Рэвалюцыя там у іх на небе, ці што? Эх, рэвалюцыя! Добрыя былі часы.

— Кніжак шмат на свеце, як дзяўчат. Ды толькі адна з іх трывожыць... — аджартаваўся гаспадар кабінета радком з вядомай савецкай песні. — Вось у нашай важнай кніжцы „Капітал" Карла Маркса пра гэта нічога не напісана. І мы, як камуністы і матэрыялісты, мусім правільна выбіраць, якім кнігам верыць, а за якія караць...

Віктар САЗОНАЎ

# Мінулае Белавежскай пушчы
## на аснове навейшых даследаванняў

У час інаўгурацыі акадэмічнага года Універсітэта залатога веку ў Гайнаўцы, якая адбылася 16 кастрычніка ў Гайнаўскім доме культуры, з дакладам «Мінулае Белавежскай пушчы на аснове навейшых даследаванняў» выступіў прафесар Рафал Заплата з Універсітэта кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве. Запрэзентаваў ён вынікі даследаванняў пушчы з прымяненнем новых тэхналогій. Прафесар Рафал Заплата ўдакладніў, што ў Белавежскай пушчы было знойдзена звыш трох тысяч археалагічных аб'ектаў, якія сведчаць аб прысутнасці ў мінулым у пушчы людзей, якія вялі ў ёй сельскагаспадарчую дзейнасць. Старшыня Універсітэта залатога веку ў Гайнаўцы Анатоль Ахрыцюк паведаміў аб размовах наконт больш шчыльнага супрацоўніцтва з прыгранічнымі раёнамі ў Рэспубліцы Беларусь, у рамках якога прадбачваецца магчымасць лячэння і адпачынку слухачоў УЗВ у санаторных установах у прыгранічнай паласе Брэстчыны і Гродзеншчыны. Старшыня падвёў вынікі дзейнасці ўніверсітэта ў апошнім годзе і запрэзентаваў планы дзейнасці гайнаўскага УЗВ на бліжэйшы акадэмічны год. Перад слухачамі ўніверсітэта з музычнай праграмай выступілі калектывы Гайнаўскага дома культуры.

Запрошаных гасцей і сабраных слухачоў-пенсіянераў Універсітэта залатога веку ў Гайнаўцы прывітаў яго старшыня Анатоль Ахрыцюк. На інаўгурацыю акадэмічнага года УЗВ прыбыў прафесар Славамір Бакер, дырэктар Інстытута лясных навук Аддзялення будаўніцтва і навук аб асяроддзі Політэхнічнага інстытута ў Беластоку (1 кастрычніка гэтага года Інстытут лясных навук замяніў раней ліквідаванае Замясцовае лясное аддзяленне ў Гайнаўцы, якога праф. Бакер быў дэканам і цесна супрацоўнічаў з УЗВ). На ўрачыстасць у ГДК прыйшлі дырэктары гайнаўскіх школ і культурных устаноў, а таксама старшыні гайнаўскіх суполак, якія супрацоўнічаюць з УЗВ. Старшыня Анатоль Ахрыцюк паінфармаваў, што вядуцца размовы наконт больш цеснага супрацоўніцтва з прыгранічнымі раёнамі Рэспублікі Беларусь, паколькі паявілася магчымасць бязвізавага выезду ў прыгранічную зону Беларусі. Старшыня паведаміў, што вядуцца намаганні, каб у рамках супрацоўніцтва гайнаўскія слухачы УЗВ маглі лячыцца і адпачываць у санаторных установах у прыгранічнай паласе Брэстчыны і Гродзеншчыны. Прадбачваюцца таксама групавыя выезды слухачоў універсітэта на экскурсіі ў Беларусь.

Слухачы Універсітэта залатога веку займаюцца ў многіх секцыях. Старшыня УЗВ Анатоль Ахрыцюк падвёў вынікі дзейнасці ўніверсітэта і актыўнасці ўсіх секцый на працягу папярэдняга акадэмічнага года. Пенсіянеры з Гайнаўкі, якія рашыліся ў рамках УЗВ актыўна праводзіць час, ездзілі на веласіпедах і хадзілі з палкамі па Белавежскай пушчы і яе наваколлі, між іншым, у час адмысловых экскурсій. Актыўна дзейнічалі тэатральны калектыў і кабарэ. Пенсіянеры з Гайнаўкі прымалі ўдзел у экскурсіях па Польшчы. У час экскурсій па Гайнаўцы слухачы-пенсіянеры знаёміліся з гісторыяй горада, з беларускімі месцамі ў ім, раслціннасцю, культурай. Пенсіянеры па секцыях будуць вучыцца англійскай і нямецкай мовам, а таксама інфарматыцы. Многа ахвотных удзельнічаць у танцавальных і гімнастычных занятках, а таксама ў занятках у гайнаўскім водным парку. Пенсіянеры хочуць прымаць удзел у пешаходных і веласіпедных экскурсіях. Вядуцца намаганні па адкрыцці ў Гайнаўцы Клуба сеніёра.



■ Прафесар Рафал Заплата з Універсітэта кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве



■ Слухачы Універсітэта залатога веку ў Гайнаўцы падчас інаўгурацыі акадэмічнага года

На бліжэйшы акадэмічны год прадбачваецца восем дакладаў. З першым дакладам «Мінулае Белавежскай пушчы на аснове навейшых даследаванняў» выступіў прафесар Рафал Заплата з Універсітэта кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве, які з калектывам сваіх супрацоўнікаў апошнімі гадамі даследаваў Белавежскую пушчу.

— Прыродазнаўчыя каштоўнасці Белавежскай пушчы — асаблівыя. Па гэтай прычыне пушча занесена ў спіс аб'ектаў Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Пушча заслугоўвае, каб захапляцца яе незвычайнасцю, але варта глянуць таксама на яе з-за вельмі цікавага і разнароднага мінулага. Мы з 2016 года даследуем Белавежскую пушчу перш за ўсё з выкарыстаннем сучасных інавацыйных тэхналогій, якія даюць магчымасць здабыць многа інфармацыі аб культурнай спадчыне. Археалагічныя даследаванні ў пушчы вяліся здаўна і вядомыя іх вынікі, датычныя дзейнасці людзей у пушчы. Нашы навейшыя даследаванні набліцюючь і дадатковa ўзмацняюць рэгіён Белавежскай пушчы. Я па адукацыі археолаг і, на маю думку, вынікі нашых археалагічных даследаванняў Белавежскай пушчы асаблівыя ў маштабе ўсёй нашай краіны і нават Еўропы, — заявіў прафесар Рафал Заплата. — На жаль раней не было дастатковай аховы пушчы і яна вельмі пацярпела ў мінулым стагоддзі, асабліва ў час войнаў і ў міжваенны перыяд. Здымкі зробленыя альянтамі і немцамі ў час Другой сусветнай вайны, якія мы атрымалі з архіваў Злучаных Штатаў Амерыкі, паказваюць катастрафічнае становішча пушчы ў гэты час.

Дакладчык праінфармаваў, што даследчыцкі праект, які рэалізаваўся ў Белавежскай пушчы, гэта першая гэтага роду ініцыятыва ў Польшчы. Даныя здабываліся перш за ўсё з выкарыстаннем лазернага сканавання з самалёта.

— Даследаванні пушчы вядуцца па ініцыятыве Генеральнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў з мэтай інвентарызацыі аб'ектаў культурнай спадчыны. Гэта першая так комплексна праведзеныя даследаванні ў гісторыі Польшчы, якія ўдалося рэалізаваць дзякуючы прымяненню навейшых тэхналогій, выкарыстоўваных для гэтага роду даследаванняў. Нашы пілатажныя даследаванні пушчы з'яўляюцца пачаткам грунтоўных даследаванняў лясоў у Польшчы, — удакладніў прафесар Рафал Заплата.

Даследаванні ў рамках праекта «Інвентарызацыя культурнай спадчыны» па заказе Генеральнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў рэалізаваліся кансорцыумам, у якім галоўнымі выканаўцамі былі Інстытут археалогіі і этналогіі Польскай акадэміі навук, а пасля Фонд «Hereditas», а лідарам быў Даследчы інстытут лясніцтва. Большасць Белавежскай пушчы ў Польшчы знаходзіцца ў адміністрацыі мясцовых структур Дзяржаўных лясоў. Няпоўныя даследаванні праводзіліся таксама на тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку.

— Даследаванні пушчы былі свайго роду рэвалюцыяй у распазнанні археалагічных аб'ектаў у розных месцах на свеце. Белавежская пушча вельмі насычана матэрыяльнымі доказамі дзейнасці тут чалавека ў мінулым. Збіралі мы інфармацыю пра помнікі прыродазнаўчай і культурнай спадчыны пушчы з мэтай прадухіліць іх знішчэнне ў ходзе гаспадарчай дзейнасці ў лясах. Матэрыяльная спадчына разам з людскімі астанкамі патрабуюць асаблівай аховы, — гаварыў прафесар Рафал Заплата.
— Нашы даследаванні Белавежскай пушчы пачаліся ў 2016 і 2017 гадах з лазернага сканавання з самалётаў і далі вялікі рэзультат. Меранне з паветра праводзілася ў галоўным у бязлісты перыяд. Святло адбівалася ад паверхні зямлі і ўзнікаў трохвымерны вобраз. Летам таксама праводзіліся такія даследаванні з самалётаў, каб акрэсліць прыродазнаўчыя аб'екты. Па-за Белавежскім нацыянальным паркам праводзілі мы таксама невялікія археалагічныя раскопкі, якія толькі ў невялікай ступені кранալі паверхню зямлі. Яны былі неабходныя для вызначэння даўнасці і здабыцця інфармацыі аб даследаваных намі аб'ектах. Падчас лазернага сканавання мы перш за ўсё распазнавалі курганы і аб'екты пад зямлёй, якія сведчаць аб прысутнасці людзей у пушчы ў розных перыядах мінулага. Праводзілі мы таксама геафізічныя даследаванні, каб больш дакладна раскрыць тайны плоскіх паверхняў і больш дакладна распазнаць, што знаходзіцца пад імі.

Дакладчык праінфармаваў, што да 2016 года было вядомых толькі каля двухсот археалагічных аб'ектаў у польскай частцы Белавежскай пушчы. Былі гэта, між іншым, курганы і гарадзішчы.

— Пасля правядзення лазернага сканавання з самалётаў і дронаў ды іншых археалагічных даследаванняў пушчы мы вылучылі звыш тры тысячы аб'ектаў, якія сведчаць аб прысутнасці людзей у пушчы. Нашы вынікі пазней былі пацверджаны даследаваннямі паверхні зямлі ў пушчы і аналізам глебы. Такім спосабам знайшлі мы ў пушчы капцы, якія сведчылі аб курганах або смалакурэнні — здабыванні смалы, шкіпінару, дзёгцю і вугалю з драўніны. Дало гэта магчымасць саставіць новую карту для культурнай спадчыны тэрыторыі Белавежскай пушчы, — сказаў прафесар Заплата.

Даследчык дабавіў яшчэ, што Лядская пушча была асаблівым месцам, дзе захавалася многа курганных магілак. Яны дазваляюць больш дакладна даследаваць сляды прысутнасці людзей у пушчы. Многа курганных аб'ектаў было знойдзеных таксама на тэрыторыі Гайнаўскага надлясніцтва. Дакладчык паведаміў, што ў Белавежскім нацыянальным парку не праводзіліся раскопкі, але вяліся геафізічныя даследаванні і былі пацверджаны аб'екты, якія таксама сведчаць, што ў мінулым там жылі людзі.

— На падставе нашых даследаванняў вядома аб выкарыстанні ў больш адлеглым мінулым часткі Белавежскай пушчы для сельскагаспадарчых мэт. Распазналі мы ў пушчы звыш 300 кіламетраў невысокіх лінейных узвышанасцей, якія сведчаць аб межах паміж палямі і аб іх сельскагаспадарчым выкарыстанні ў мінулым. Лабараторныя даследаванні глебы пацвердзілі сельскагаспадарчае выкарыстанне часткі Белавежскай пушчы ў прошлым. Пасля палеткі былі аблесены, — удакладніў прафесар Рафал Заплата і паказаў копіі сельскагаспадарчых прылад працы, а таксама кавалкі керамікі і манеты, знойдзеныя ў Белавежскай пушчы. Самыя старэйшыя аб'екты знойдзеныя ў час апошніх даследаванняў Белавежскай пушчы прафесар Рафал Заплата датуе на дзве тысячы гадоў, а малодшыя аднёс да перыяду сярэдневякоўя.

— Мы не ўяўлялі сабе, што так многа археалагічных аб'ектаў знаходзіцца ў Белавежскай пушчы, а мы па іх ходзім, — заявіла слухачка ўніверсітэта пасля даклада.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

Лёсы Беларусаў Беласточчыны

# Свякроў была добрая, свёкар — не вельмі

Галіна Сліжэўская з Дзятлава была замужам за Міхаілам Сліжэўскім. І хоць Міхаіл за яе быў на два гады маладзейшы, ён моцна закахаўся ў магілёўскую дзяўчыну, якая прыехала ў Дзятлава па размеркаванні пасля заканчэння Магілёўскага педвучылішча. Спачатку працавала ў дзіцячым доме, потым выхавацелькай у дзіцячым садку і загадчыцай дзіцячага садка.

У Дзятлаве маладыя пазнаёміліся і ўзялі шлюб. Па словах Галіны Сліжэўскай, муж ужо памёр, а ёй сёлета споўнілася 80. На выгляд і не скажаш, што гэтай жанчыне шмат гадоў, бо выглядае яна значна маладзей. Гэта даволі шчырая, прыгожая і адкрытая жанчына.

Муж Галіны, Міхаіл Сліжэўскі, таксама быў не дзятлаўскі хлопец, а з Беластока. Ён нарадзіўся ў Беластоку 14 ліпеня 1941 года ў сям'і беларусаў Міхаіла Іванавіча і Надзеі Ігнатаўны Сліжэўскіх. Пра гэта сведчыць і пасведчанне аб нараджэнні, якое захавала і паказала мне Галіна Іосіфаўна Сліжэўская.



Галіна Сліжэўская ў роднай хаце ў Дзятлаве



Міхаіл Сліжэўскі кладзе печ

У сям'і Сліжэўскіх было трое дзяцей — Ірына, 1939 года нараджэння, Міхаіл — 1941 года нараджэння і Галіна — 1947 года нараджэння. Ірына і Міхаіл нарадзіліся ў Беластоку, а вось Галіна — у Дзятлаве. Пытаюся ў спадарыні Галіны: а чаго пакінулі Беласток вашы свёкар і свякроў? „Не пытайцеся лепш. Як распавядала мне свякроў, а яна была вельмі добрая жанчына, што спакою ім не давалі спачатку саветы, якія прыйшлі ў 1939 годзе, потым — немцы, а пасля вайны адразу сталі дакучаць паляки. Жыць там стала невыносна. Таму Сліжэўскія пакінулі родны Беласток", — пачала распавядаць Галіна Сліжэўская.

— А кім там працавалі бацькі вашага мужа?

— Не ведаю, мы пра гэта мала гутарылі, ды і мяне не цікавіла тое, дзе яны жылі, што рабілі. Нас хвалявалі жыццёвыя праблемы тут, у Дзятлаве.

— Вы сказалі, што ваша свякроў была вельмі добрая жанчына, а свёкар, як да вас адносіўся?

— Свёкар Міхаіл Іванавіч быў майстар на ўсе рукі, але аказаўся вельмі жорсткім чалавекам. Мы пачалі будаваць сабе хату. Ён, вядома ж, дапамагаў. Залілі фундамент. Нейк рабочыя мне кажуць, скажы Міхаілу Іванавічу, што фундамент атрымаўся трохі няроўны. І, праўда, ён быў не вельмі роўненькі. Я ўзяла і сказала яму. А ён, як крыкне: „Знайшлася мне тут — архітэктар!". Больш я яму нічога не казала. Але ў жыццёвых праблемах, па гаспадарцы ён, сапраўды, добра разбіраўся.

— А ці дабудавалі свой дом?

— Так, мы зараз з вамі тут гутарым, наваселле справілі ў 1981 годзе.

— А муж ваш кім працаваў у Дзятлаве?

— Муж свой лёс звязаў з пажарнай інспекцыяй. Ён некалі скончыў Харкаўскае пажарнае вучылішча.

— Ці засталіся сваякі ў Сліжэўскіх на Беласточчыне?

— Ёсць, мы нават некалі ездзілі да іх у Беласток. Яны жылі на вуліцы Бацечкі. Але даўно ўжо ніякіх сувязей не маем.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

EXINS

https://exins.by/be/

Фінансавая сістэма — вельмі важны чыннік жыцця сучаснага чалавека, у тым ліку беларускага. Аднак беларуская мова ў фінансавых стасунках выкарыстоўваецца настолькі рэдка, што можна сказаць, не выкарыстоўваецца зусім. Праўда, у кожным правіле бываюць выключэнні, якія ствараюць людзі, адчуваючыя патрэбу ў тым, каб беларушчына не была чужой і ў фінансавых стасунках. Як, напрыклад, уладальнікі сайта страхавога брокера Exins.

Беларуская версія віртуальнага прадстаўніцтва ўдзельніка беларускага фінансавага рынку месяцца на старонцы **https://exins.by/be/**. Яна мае даволі прывабны выгляд, бо змяшчае прыемныя фотаздымкі задаволеных людзей, і гэта нібыта ажыўляе і асвяжае галоўную старонку. Таксама лашчыць вока і прыцягвае ўвагу бела-чырвона-светла-шэрае выяўленне.

„Страхавы брокер, гэта значыць, кампанія, якая збірае прапановы ад розных страхавых кампаній, кансультуе і прапаноўвае найлепшы варыянт пад вашы патрэбы. Паколькі прапановы і дамовы ад розных кампаній, бланк дамовы па-беларуску не гарантаваны, але кансультацыю па-беларуску (і дастаўку, калі не зусім дробная замова), атрымаеце", — тлумачыць мала дасведчаным у страхаванні людзям сайт-каталог беларускамоўнага бізнесу „Свае".

„Шукаеце страхоўку на аўтамабіль, кватэру, здароўе? Не ведаеце як падабраць надзейны і выгадны варыянт страхавання? Спрабуеце разабрацца ў тонкасцях і нюансах розных кампаній? Запрашаем у Цэнтр страхавання Exins!" — заклікаюць уладальнікі страхавога брокера на галоўнай старонцы сайта.

Сярод мноства рубрык сайта для азнаямлення з ім людзей, якія магчыма не збіраюцца скарыстацца паслугамі дадзенага страхавога брокера, найбольш цікавымі падаюцца „Навіны". Праўда, абнаўляюцца яны не вельмі часта. Так, апошні запіс датаваны чэрвенем бягучага года. Падаецца, што з таго часу да сярэдзіны восені яшчэ штосьці на беларускім страхавым рынку адбывалася, пра што варта было б напісаць.

З левага боку цэлага выяўлення месяцца рубрыкі, датычныя відаў страхавання, якімі могуць скарыстацца кліенты дадзенай фірмы. Гэта звычайны страхавы набор, у якім між іншага ёсць страхаванне аўтамабіляў „каска", дадатковых медычных паслуг, жыцця і здароўя вандроўнікаў, хатняй маёмасці і гэтак далей. Кожны від страхавання месяцца на асобнай рубрыцы, дзе пра яго даецца падрабязны расповед. Вось, напрыклад, як рэкламуецца такое страхаванне як дадатковыя медычныя паслугі: „Усім нам рана ці позна даводзіцца звяртацца да ўрача. І вядома, кожнаму з нас хочацца быць упэўненымі ў тым, што нам акажуць кваліфікаваную дапамогу, правядуць усебаковую дыягностыку, своечасова прыйдуць на дапамогу ў выпадку непрадбачаных ускладненняў і справяцца з імі. Каб атрыманне медыцынскай дапамогі не станавілася дадатковай праблемай, можна набыць поліс добраахвотнага страхавання медыцынскіх выдаткаў".

З правага боку галоўнай старонкі знаходзяцца калькулятары разлікаў на кожны прапанаваны від страхавання. Таму кожны наведвальнік сайта можа разлічыць, колькі ён можа атрымаць, калі з ім, крый Божа, здарыцца страхавы выпадак.

Рубрыкі, выйсці на якія месяцца ўнізе выяўлення, даюць магчымасць даведацца аб партнёрах страхавога брокера Exins і напісаць водгук. Праўда, на некаторых старонках сайта яго ўладальнікі, відаць, забыліся змясціць інфармацыю.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

## 150 гадоў з дня нараджэння

# Язэпа Стаброўскага

Археолаг, краязнавец, гісторык, філосаф, вайсковец, вынаходнік, заснавальнік Слонімскага раённага краязнаўчага музея Язэп Стаброўскі нарадзіўся 2 лістапада 1869 г. у Слоніме.

Бацька Язэпа Стаброўскага — Іосіф удзельнічаў у венгерскай, турэцкай і севастопальскай войнах. Пахаваны ў роднай вёсцы Орлавічы (Слонімскі раён). Маці Язэпа Стаброўскага — Людвіка родам з князёў Масальскіх. Памерла ў 1902 г., пахавана побач з мужам. Бацька Людвікі Стаброўскай — Адольф Масальскі актыўна ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года. За гэта Мураўёў-вешальнік выслаў яго ў Нерчынскія руднікі. Родны брат маці — Карл Масальскі таксама ўдзельнічаў у паўстанні. Ён быў камандзірам аднаго з атрадаў Кастуся Каліноўскага. Яго схапілі, пасадзілі ў клетку і вазілі па вуліцах Слоніма, а пасля расстралялі...

У 1888 г. Язэп Стаброўскі стаў курсантам Аляксандраўскай ваеннай вучэльні. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскі археалагічны інстытут і Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. Быў сябрам-карэспандэнтам Віленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага таварыства і сябрам Яраслаўскага археалагічнага таварыства.

Першую сусветную вайну Язэп Стаброўскі закончыў у чыне палкоўніка. Але з цягам часу навуковыя інтарэсы ўзялі верх над прафесійна-ваеннымі. І ў 1921 г. ён вяртаецца на родную Слонімшчыну, усе свае сілы і веды аддае даследаванню роднага краю. Стаброўскі збірае ўсё, што, на яго погляд, уяўляла гістарычную каштоўнасць. У калекцыі Язэпа Стаброўскага былі такія экспанаты, якія маглі б упрыгожыць стэнды і залы найлепшых музеяў Еўропы: багатая калекцыя крамянёвых і каменных вырабаў часоў мезаліту і неаліту, галава старажытна-славянскага ідала, аўтографы Мікалая Карамзіна, Гаўрыіла Дзяржавіна, Льва Талстога, два лісты Аляксандра Пушкіна да яго жонкі Наталлі Ганчаровай, гістарычныя рукапісы XVI-XVII стагоддзяў і многія-многія іншыя рэчы.

Восенню 1924 г. Язэп Стаброўскі арганізаваў у Слоніме выставу старадаўніх дакументаў і кніг, якія збіраў шмат гадоў. Выстава выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў, асабліва сярод моладзі. Пасля яе закрыцця ўвесь сабраны археалагічны матэрыял і каштоўную калекцыю вырабаў каменнага веку Стаброўскі паклаў у аснову гісторыка-краязнаўчага музея. Ён расчыніў дзверы перад наведвальнікамі 20 верасня 1929 года. У адкрыцці музея прымаў удзел тагачасны прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі.

Язэп Стаброўскі быў не толькі выдатным археолагам і краязнаўцам, але і таленавітым гісторыкам і вынаходнікам. Ім даследавана больш за 150 курганоў на Гарадзеншчыне, напісаны і надрукаваны дзясяткі артыкулаў па краязнаўстве і гісторыі. Ён захаваў успаміны з Першай сусветнай вайны і альбом з 300 фотаздымкамі. У свой час знайшлі прымяненне яго шрапнель удасканаленага ўзору (зацверджаны ў 1907 годзе Галоўным расейскім артылерыйскім упраўленнем) і тэлефон-прыёмнік удасканаленай канструкцыі (польскі патэнт № 18 728).

Апошнія свае гады Стаброўскі шмат чытаў і пісаў, сістэматызаваў свае веды, стварыў шэраг твораў, якія раскрываюць яго ўяўленні па астраноміі, прыродазнаўстве, гісторыі і археалогіі. Памёр Язэп Стаброўскі ў беднасці ў вёсцы Орлавічы 15 студзеня 1968 года, мала не дажыўшы да ста гадоў. Пахаваны ў Орлавічах. Слонімскі раённы краязнаўчы музей носіць яго імя. У 2002 годзе на будынку музея ўсталявана мемарыяльная дошка (скульптар Леанід Богдан).

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Суседская дапамога

Урэшце чарамшане, ды не толькі яны адны, дачакаліся залатой восені і сапраўднага грыбнога сезона. Яшчэ нядаўна глядзеў я па тэлевізары, як грыбнікі на поўдні краіны цешыліся пасляховым набыткам. Вярталіся з кашамі поўнымі мажных баравікоў ды іншага віду грыбоў. Зараз і ў нашых лясах шмат іх можна назбіраць. Перш-наперш паказаліся маслякі, затым баравікі, казякі, апенькі. Гэтых процьма расце не толькі ў навакольных лясах, але і ў агародчыках пад фруктовымі дрэвамі. У пасёлку на станцыі пачалі ўжо працу пункты скупкі грыбоў.

Ад маёй забудовы да лесу як рукой падаць. Даўнейшае ворнае поле замянілася ў аблог. Зараз выраслі на ім малады сасняк і бярэзіна. Два гады таму, упершыню праходзячы па палетку, трапіў я на некалькі баравікоў. З таго часу што і раз заглядаю пад галінкі маладых сасонак, ці не вырас нейкі грыб. Так і было ў суботу 26 кастрычніка. Пасля снедання сабраўся я на шпацыр па палетку. За агароджай, пад бярозавымі пажаўцелымі лісточкамі знайшоў я некалькі маладых казячкоў, затым далей пад сасонкамі раслі пухкія маслякі. Трапіўся і адзін баравічок у нагрэтым сонцам пясочку. Калі збіраўся вяртацца дамоў, на суседнім участку за агароджай з сеткі прыкмеціў я суседку Надзю, якая збірала ў бярэзіне і арэшніку грыбы. Яна таксама мяне заўважыла. Штосьці гаварыла да мяне, але я не разбіраў слоў. Здзівіўся я паводзінамі жанчыны, бо мы спрадвеку з сабою не гаварылі, хоць жылі па мяжы больш за сорак гадоў. Спаткаліся пры агароджы. Старая кволая жанчына ў адной руцэ трымала чатыры маслякі, а ў другой — поўны пакет бэтак.

— Вазьмі, Валодзя, я сабе выхапняў-каўпакоў назбірала, — затым прыбавіла. — Табе ж цяжка прыходзіцца. У суп прыкінеш... А тых белых бэтак шмат бачыла. Кучкамі растуць за арэшнікам...

Падзякаваўшы ветлівай суседцы, я пайшоў дадому. Пасля абеду прысеў за хатай на лавачцы чысціць маслякі. Нават не прыкмеціў як ціхачом пры лаўцы апынулася цётка Надзя.

— А што гэта за грыбы? — спытала падаўшы пакет з бэткамі.

— Гэта апенькі.

— А я думала што выхапні.

— Гэта мне ўсё? — недаверліва запытаў я суседку.

— Я зараз яшчэ прынясу... — і шпаркім крокам адышла.

Праз чвэрць гадзіны прынесла ў падвязаным фартушку палавіну запаяскі апенек і дзве вялікія кані. Печаныя кані смакавалі быццам свіная грудзінка. А з апенек зрабіў я марынад. Будзе запас на зіму. Такім чынам добразычлівая суседка дапамагла мне апенькамі, за што ёй выказваю сардэчную падзяку.

**Уладзімір СІДАРУК**

## У Новым Ляўкове спынілі рачулку

Як вядома, сёлета лета і восень засушлівыя. Дажджу было як на лякарства. Без пары высыхала трава на лугах, пашах і сенажацях. Так ёсць на г.зв. зялёных угоддзях у даліне рачулкі Баброўка, між іншым, на тэрыторыі салэцтва Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета.



■ У рэчцы Баброўцы на калёніі вады з берагамі. Бліжэй вёскі менш (рэчка ўсяго як раўчук). Ніжэй моста ў вёсцы Новае Ляўкова — маленькі ручаёк.



Некаторыя жыхары Новага Ляўкова пачалі тармазіць ды спыняць бег рачулкі Баброўка, маючы пад рукой міні-плаціны. Зрабілі гэта адмыслова. 27 кастрычніка гэтага года я зрабіў фотаздымкі рачулкі з трох мосцікаў на Баброўцы. Ніжэй трэцяга мосціка ў самой вёсцы вады можа толькі дзе-нідзе ў малых ямачках. Больш не распісваюся. Я з гэтай вёскі. Хто гэта робіць з выгадай для сябе, аднасяльчане ведаюць. Дадам, што рэчка павінна плысці і плысці. Яна для нас усіх.

А скажыце вы мне, хто любіць крытыку. Вінаваты будзе той, хто напісаў. Бо навошта напісаў ды яшчэ якім правам і гэтак далей. Нядаўна ж мяне клеймавалі — дадам, што не ўсе прачыталі тэкст у арыгінале — за крытыку на старонках „Нівы". Хто чытае родную газету, той ведае. Няхай тады пра спыненую рэчку засведчаць здымкі.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Лавачкі над Леснай

У Гайнаўцы стварылі міні-скверык над рачулкай Леснай. Каля скрыжавання вуліц Баторыя, Спартыўнай і а. Дзевятоўскага здаўна быў г. зв. зялёны акцэнт над рачулкай. Густа раслі тут высокія ліставыя дрэвы ды кусты і пышная трава. Шмат гадоў тут у засені дрэў стаялі тры макеты зуброў. Былі яны як жывыя. Пасля было іх два і апошнім часам адзін. Першапачаткова хуліганы збівалі ім рогі ды разбівалі бакі.

Гараджане вытапталі шырокую сцяжынку, ідучы напрасткі ад аднаго да другога мосціка. Тут Лесна робіць такі паварот, што спатрэбіліся два мосцікі. Яна перасякае вуліцы Баторыя і Спартыўную.

Улады горада як пастанавілі, так і зрабілі тут міні-парк. Зараз тут праклалі даволі шырокі тратуар з брусчаткі, паставілі тры прыгожыя карычневага колеру драўляныя лавачкі і дзве аранжавыя сметніцы.

25 кастрычніка гэтага года я быў у Гайнаўцы. Стаяў цёплы сонечны дзень і ў вышэйзгаданым скверыку пасля поўдня адпачывалі дзве старэйшыя жанчыны з дзяцьмі. Добра, калі ў горадзе ёсць хаця б такія маленькія скверыкі для прагулкі непадалёк ад жылых шматсямейных блокаў. А тут яшчэ і не абы-які атракцыён — рачулка. **(яц)**

## Бар „На Бельскай"

Прыгожы і ўтульны бар працуе па вуліцы Бельскай у Гайнаўцы. Мае ён назву „На Бельскай". У ім чатыры столікі і пры іх 16 крэсел. Бар працуе пяць дзён у тыдні : з панядзелка да пятніцы ўключна. Наведвальнікаў шмат. Многія бяруць абеды на вынас.

Абеды тут добрыя, смачныя і недарагія: суп і другая страва — усяго 14 злотых, кампот да абеду бясплатны. 25 кастрычніка гэтага года я першы раз еў тут абед, заказаў суп з агародніны ды смажаную рыбу з бульбай і салат з квашанай капусты і морквы.

Бар „На Бельскай" прапануе перш-наперш бульбяную кішку, дранікі, кашанку, варэнікі, кракеты. Да выбару ёсць шмат іншых страў, у тым страў з мясам. Будзеце ў Гайнаўцы, наведайце бар па вуліцы Бельскай. У ім танныя абеды (таннейшых у горадзе не знойдзеце) ды ветлівае і хуткае абслугоўванне кліентаў. Таму рэкамендую гэты бар. **(яц)**

## Адгаданка

**1.** дачка цара, **2.** незвычайнасць далёкіх краін, **3.** лоўкае вядзенне мяча футбалістам між сапернікамі, **4.** далягляд, галіна дзейнасці, **5.** дружалюбнасць, **6.** знешнасць, вонкавае аблічча, **7.** чалавек, які многа крычыць.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 40 нумара**

Бажко, сцяг, Бушко, нарыў, друкарня, сені, Роўда, канвой, дуб, Сачко.

Рашэнне: **Кожны цягне коўдру ў свой бок**.

## 03.11 — 09.11

**(22.03. — 20.04.)** Аграмадная энергія. Радасць жыцця, крэатыўнасць. 3-7.11. папсуецца табе густ — купіш нейкі кіч! Можаш пачаць гнацца за тым, што нерэальнае. Будзеш злосны, неспакойны. Кепска можаш накіраваць сваю энергію, ангажуючыся ў дзеянні, якія не прынясуць вынікаў. Пачуццё бяссільнасці можа адабраць табе волю змагацца. Затое можаш пахудзець. З 7.11. (да 11.11.) можаш вярнуць сабе страчаныя грошы.

**(21.04. — 21.05.)** Шыкуецца больш абавязкаў, але не забывайся аб сваёй другой палавінцы. Калі твая праца заключаецца на кантактах з людзьмі, шыкуецца табе вялікі поспех. Кожнага пераканаеш да сваіх задум, нават вельмі смелых. 7-11.11. не ўваходзь у бессэнсоўныя дыскусіі і фірмовыя інтрыгі. Тваё стравaванне цяпер вельмі ўражлівае, глядзі што ясі, асабліва пільнуйся пры жоўцевых камянях.

**(22.05. — 22.06.)** 3-8.11. будзеш раздражнены і нервовы. У пастаянных парах можа не хапаць даверу. 3-7.11., калі ты дамаўляўся з некалькімі асобамі, урэшце вырашыш. Ніхто не перашкодзіць табе ў вядзенні кампанейскага жыцця, асабліва калі яно праходзіць у інтэрнэце. Схадзі на групавыя заняткі фітнэс.

**(23.06. — 23.07.)** Паправіш памылкі, пакажаш, колькі ты варты. 6-10.11. удасца табе самому зрабіць або купіць мастацкі твор. Ёсць рызыка, што 3-8.11. задзярэш з неадпаведнай асобай. З 7.11. (да 11.11.) могуць цябе выкінуць з нейкай кампаніі. Кінеш мроі, адкінеш ляноту і не будзеш адкладваць нічога на пазней.

**(24.07. — 23.08.)** Вазьміся за сябе і аформі самыя важныя справы. На працы захавай халаднакроўе. Паляпшэнне ў праблемных парах. На працы, дзякуючы працавітасці і дысцыпліне, дасягнеш многа. Вазьміся за сваё цела, схадзі на трэнажоры, займіся гімнастыкай.

**(24.08. — 23.09.)** 3-7.11. не парві з-за благой прычыны важную рэляцыю. Выйдзі з ценю, твае задумы чакаюць хуткай рэалізацыі. На працы многа абавязкаў, не разгубіся, не нарабі памылак. Аграмадная моц у рэалізацыі планаў свайго жыцця. Асабліва паможа табе хтосьці з сям'і.

**(24.09. — 23.10.)** Вялікая энергія. Шчаслівыя выпадкі. Дома ўвядзеш новыя парадкі. На працы гэта ты раздаеш карты. Можаш стаць выдатным, змяніць занятак (да 18.11. дзейнічай на ўсю катушку!). Хаця 3-8.11. можа табе цяжка ўтрымаць будзе ўнутраную раўнавагу і можаш выбухнуць без прычыны. 7-11.11. можаш вярнуць страчаныя грошы. Не купляй сабе абы-чаго.

**(24.10. — 22.11.)** Лішак працы табе не пагражае. Больш адпачывай, рабі сабе прыемнасці. Не будзеш мець ахвоты на рызыканцкія акцыі і змаганні з канкурэнцыяй. Затое паафармляеш усе адкладзеныя справы. Магчымыя сардэчныя складанасці, можаш не арыентавацца, што хто адчувае да цябе. Можаш ляпнуць штосьці ці прайграць у кампаніі; лепш схавай свае нервы. Сярод знаёмых знойдзеш сяброў. 2-8.11. увогуле будзеш рэагаваць нервова, старайся не паспрачацца. На працы менш спешкі. Будзеш стомлены, санлівы, можа, схадзі да лекара.

**(23.11. — 22.12.)** 3-7.11. не трап у неадпаведныя абдымкі. Трэба будзе прытармазіць ці змяніць курс жыцця аж да 18.11. Сімпатыя атачэння, хаця не ўсе будуць цябе разумець. Затое іншы пол ашалее на тваім пункце. Многа нагод да знаёмстваў з файнымі людзьмі. Трэба будзе заняцца на працы справамі, якія неабавязкова любіш. Усе закупкі і інвестыцыі спыні да 26 лістапада. Звяртай увагу на свае жылы.

**(23.12. — 20.01.)** Маеш час на адпачынак. Зоймешся тым, што нялёгкае, але будзе мусова. Не папраўляй добрага (да 19.11.). Любоўныя захапленні ў лістападзе могуць аказацца памылкай. Сярод сяброў не будзь як сцяжок на ветры. Пакуль не вырашай спраў інвестыцый, большых пакупак. Стрымай эмоцыі, выйдзеш на сваё.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш гуляць, фліртаваць і нічога не шкадаваць. Шыкуюцца карысныя нагоды — не праваронь іх. Высветліш важныя справы. Будзеш у цэнтры зацікаўлення, будуць табе гаварыць кампліменты і захапляцца табою. Росквіт кампанейскага жыцця! На працы трымай руку на пульсе, дзве першыя дэкады месяца будуць абсалютна спрыяць тваёй кар'еры. Падвучышся мовам. Атачайся колерамі і араматамі.

**(20.02. — 21.03.)** Ад 3.11. (да 13.11.) здабудзеш тое, чаго да гэтай пары табе не хапала. Сонца дадасць табе аптымізму і пазітыўнага мышлення. Не адмовішся ад фліртавання. Складзі план дня так, каб апынулася ў ім месца для тваіх пасій. Дзякуючы добрай арганізаванасці справішся з абавязкамі. Цярплівасцю пераможаш перашкоды. Можаш пачаць рэалізацыю новых мерапрыемстваў, зачыняючы старыя справы. На рабоце прыйдзецца закаціць рукавы, але будзеш задаволены новымі абавязкамі. 6-10.11. атрымаеш цікавую прапанову, якая будзе патрабаваць большай крэатыўнасці і адданасці; варта яе разважыць і не казаць адразу «не» — выдатна з ёю справішся. Можа хтосьці захварэць з радні, прыйдзецца табе яму дапамагаць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# «Бардаўская восень — 2019»

**XXVI Фестываль беларускай бардаўскай і аўтарскай песні «Бардаўская восень — 2019» Звяз у карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» паспяхова арганізаваў 26 кастрычніка ў Гміным асяродку культуры ў Орлі і і 27 кастрычніка ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку. Публіку захапілі Сяргей Башлыкевіч, Зміцер Вайцюшкевіч, «ILO&friends» і Яўген Барышнікаў.**



Віяланчэлістка Ганна Лукашык, Сяргей Башлыкевіч і Ганна Рэзнік

Сёлетні выпуск «Бардаўскай восені» быў, так як юбілейны мінулагодні, няконкурсным. Удалося яго арганізаваць дзякуючы самаўрадавым сродкам, атрыманым з бюджэту Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і горада Беластока. Суарганізатарамі сёлетняга выпуску фестывалю былі Падляшская опера і філармонія ў Беластоку і Гміны асяродак культуры ў Орлі.

— Цешуся, што «Бардаўская восень» як штогод завітала ў Орлю. Раней канцэрты адбываліся ў сінагозе, а цяпер маем вельмі прыгожую глядзельную залу. Выступіць Сяргей Башлыкевіч, які ўдзельнічае ў нашым фестывалі з 2014 года, — заявіў са сцэны Гміннага асяродка культуры ў Орлі старшыня Звязу «Шчыты» Лукаш Леанюк, адкрываючы XXVI Фестываль беларускай бардаўскай і аўтарскай песні «Бардаўская восень — 2019». Выканаўцаў «Бардаўскай восені» і публіку прывітала таксама дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Карына Ярашэвіч.

— Мне ў 2014 годзе пашанцавала трапіць на «Бардаўскую восень» у якасці канкурсанта. Мяне тады тут, на Беласточчыне, уразілі беларускі рух і сяброўская атмасфера сярод музыкаў, якія выступалі на фестывалі. Хацелася прыязджаць таксама пазней. Сёння я праспяваю песні, пра якія буду распавядаць; я нават люблю больш пагаварыць, чым паспяваць. Спачатку праспяваю больш сур'ёзныя песні, а пасля буду спяваць больш дурацкія. Нельга заўсёды быць вясёлым або заўсёды — сумным, паколькі і жыццё такое, — заявіў у пачатку свайго выступлення ў Орлі Сяргей Башлыкевіч.

Сяргей Башлыкевіч, які па-акцёрску спяваў, іграў на гітары і цікава расказваў, захапіў публіку, выступаючы з двума Ганнамі — Ганнай Лукашык, якая іграла на віяланчэлі, а ў канцы яшчэ заспявала і Ганнай Рэзнік, якая захапіла моцным голасам у лірычных творах.

— Наша «Бардаўская восень» гэта самы старэйшы фестываль беларускай аўтарскай песні і спяванай паэзіі, які адлюстроўвае сучасны стан беларускай песні і спалучае розныя стылі і накірункі. Аднак арганізацыі маюць свае лепшыя і горшыя перыяды дзейнасці, а мерапрыемствы, якія яны арганізуюць — свой зорны час і час ніжэйшага лёту. У нашым выпадку недахоп сродкаў давёў да таго, што мусілі мы абмежаваць фестываль і таму сёлета ладзім толькі два канцэрты — у Орлі і Беластоку. У мінулым годзе не ладзілі мы конкурснай часткі фестывалю, таму што адзначалі юбілей 25-годдзя «Бардаўскай восені». У гэтым годзе няма конкурсу па прычыне нястачы сродкаў. На адборачны тур у Мінску і на конкурсную частку фестывалю патрэбнымі былі большыя сродкі, чым сабралі мы ад спонсараў. Сёлета не атрымалі мы грошай з Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, таму што не змаглі задаволіць фармальных патрабаванняў міністэрства. Меншыя сродкі атрымалі мы з Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і горада Беластока ў параўнанні з папярэднімі гадамі. Па прычыне грунтоўнай мадэрнізацыі будынка Бельскага дома культуры наш фестываль адбываецца ў іншых месцах. Першы канцэрт адбудзецца ў Гміным асяродку культуры ў Орлі, у гміне, у якой знаходзіцца наша сядзіба. Другі канцэрт пройдзе ў камернай зале Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку. Абедзве ўстановы з'яўляюцца суарганізатарамі нашых канцэртаў, — сказаў старшыня Звязу «Шчыты» Лукаш Леанюк. — Разлічваем, што на наступны год атрымаем поўную міністэрскую датацыю і больш сродкаў ад спонсараў і вернем «Бардаўскай восені» ранейшы фармат — з конкурснай часткай і пошукам мастацкіх талентаў. Два гады без конкурсу гэта многа часу. У Беларусі з'яўляюцца таленавітыя маладыя спевакі і многія з іх хацелі б паказацца публіцы на прафесійным узроўні. Хочам выйсці насустрач гэтым патрэбам. У наступным годзе будзе здадзены ў карыстанне адрамантаваны будынак Бельскага дома культуры і плануем у ім наступныя «барды» правесці з «прытупам». Вернем у БДК конкурсную частку, наладзім канцэрты ў Беластоку і іншых мясцовасцях.



Публіка вельмі цёпла і эмацыйна ўспрыняла выкананне ўсіх твораў Сяргеем Башлыкевічам і акампануючым яму віяланчэлісткай і фольк-спявачкай. Пасля канцэрта і працяглых апладысментаў дырэктар ГАК у Орлі ўручыла барду букет кветак.

— Але файна заспявалі. То-то спеў. А якія моцныя галасы, — заявілі жанчыны з Орлі пасля канцэрта.

— Супер выступіў Сяргей Башлыкевіч. Мне вельмі спадабаўся яго спеў. Я і ў мінулым годзе прыязджаў на «Бардаўскую восень», паколькі мне вельмі падабаюцца беларускія песні пад гітару. Зміцера Вайцюшкевіча пускаюць на Радыё Рацыя ў час Падляшскага канцэрта пажаданняў, які я вельмі люблю слухаць, — сказаў Яўген Ёдла з Міклашоў, які пакарыстаўся магчымасцю паразмаўляць з бардамі з Беларусі.

— У 2014 годзе на сцэне «Бардаўскай восені» я спявала з Сяргеям Башлыкевічам. Быў з намі наш гітарыст Міхаіл Міхалоўскі. Мы тады атрымалі спецыяльную ўзнагароду Радыё Рацыя. На фестывалі я другі раз. У нас быў перапынак у супрацоўніцтве з Сяргеем. Цяпер мы аднаўляем нашу супольную дзейнасць. Прабуем розныя варыянты і ў нас зараз акустычны склад з віяланчэллю. А ёсць яшчэ іншы электрычны склад з гуртам «Leibonik», з бас-гітарай, электра-гітарай і барабанамі. З Сяргеем выступаем таксама ўдвaix, — заявіла фольк-спявачка Ганна Рэзнік, якая ў Орлі паказала моц свайго голасу. Ганна Лукашык умела састаўляла акампанемент на віяланчэлі для часткі твораў і ў канцы канцэрта таксама заспявала.

— У 2014 годзе мы выйшлі на сцэну ў Мінску, запрэзэнтавалі сябе і атрымалі званне «Адкрыццё года». Аднак раней мы атрымалі спецыяльную ўзнагароду Радыё Рацыя ў час «Бардаўскай восені» і гэта пасадзейнічала здабыццю вядомасці і ў Беларусі. Мы тут, на Падляшшы, пабачылі яшчэ, як тут робіцца музыка. «Бардаўская восень» падштурхоўвае нешта рабіць, асабліва ў акустычным накірунку. У нас, у Беларусі, няма такога напрамку развіцця для музыкаў, якія хочуць быць бардамі, але бардамі не ў савецкай традыцыі, а проста рабіць акустычную музыку. «Бардаўская восень» якраз заахвочвае да пошукаў і выканаўца павінен на сцэне лавіць атмасферу і нешта вынесці з ёй. У час «Бардаўскай восені» можна атрымаць моцны творчы штуршок. У Беларусі мала конкурсаў у акустычным фармаце. У нашым выпадку мы з'ездзілі на «Бардаўскую восень» і акустычна сябе заявілі. Потым дафармаваліся да электрычнага складу і з'ездзілі на «Басовішча» ў 2016 годзе як «Leibonik». Зараз пайшло, што гурт «Leibonik» гэта больш вясёлыя, прыдуркаватыя песні і музыка больш цяжкая. Акустычна выступаем супольна ў складзе Сяргей Башлыкевіч і Ганна Рэзнік, а далучылася да нас Ганна Лукашык і ў такім складзе мы запрэзэнтаваліся сёння, — расказаў пасля выступу бард і шоўмен Сяргей Башлыкевіч і ўспомніў здарэнне з сябрам па бардаўскім фестывалі. — Калі мы з Жэнем Барышнікавым ехалі на «Бардаўскую восень», адсталі ад цягніка, каб папіць піва ў Кузніцы. Цягнік паехаў і нас, двух бардаў, на выступы давезлі сябры з Беластока. Я тады спяваў у Нараўцы, а Яўген у Гайнаўцы, а былі гэта суправаджальныя канцэрты перад пачаткам асноўнай часткі фестывалю.

— Я ўзнагароду Гран-пры «Бардаўскай восені» атрымаў у 2010 годзе. Пасля многа разоў прыязджаў на «Бардаўскую восень» і выступаў з канцэртамі. Сяржук Башлыкевіч — мой сябра і я пра яго толькі добрае магу сказаць, — заявіў Яўген Барышнікаў, які прыехаў у Орлю спецыяльна на выступ Сяргея Башлыкевіча. Пасля адпачынку бардам трэба было на другі дзень дабрацца з Орлі ў Беласток на выступ у Падляшскай оперы і філармоніі.

— Сяргей Башлыкевіч — энергічны, гумарыстычны выканаўца. Мы падумалі, што добра будзе яго запрасіць на сёлетні выпуск фестывалю. Яўген Барышнікаў са сваёй лірыкай і пачуццямі падыходзіць нам да фестывалю як лірычны бард. Тодар Вайцюшкевіч добра вядомы на Падляшшы. Яго песні людзі ў нас ведаюць і ахвотна прыходзяць на яго канцэрты. «ILO&friends» ад многіх гадоў падтрымлівае супрацоўніцтва з намі. Важна, што «ILO&friends» — гурт з Падляшша, які выступае на высокім узроўні, а нам залежыць, каб і з Падляшша былі выступоўцы на нашым фестывалі, — сказаў старшыня Звязу «Шчыты» Лукаш Леанюк пра выканаўцаў XXVI Фестывалю беларускай бардаўскай і аўтарскай песні «Бардаўская восень 2019». — Беларускай нядзеляй назвалі мы прагулку 27 кастрычніка па выставе «Да пабачэння пасля рэвалюцыі! Выстава да 100-годдзя Баўгаўсу» ў Галерэі «Арсенал» у Беластоку, якую па-беларуску павядзе Аліна Ваўранюк і канцэрт бардаў у Беластоку. Ахвотныя, ідучы з Галерэі «Арсенал» у Падляшскую оперу і філармонію будуць маглі прайсціся па беларускіх слядах у Беластоку, паводле спецыяльна састаўленай дзеля гэтых слядоў карты, якую будзем раздаваць зацікаўленым.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

ISSN 0546-1960 44